

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 3(39) Сакавік 1997 March Год выд. 5.


## Жыве Беларусь!






## 25-га Сакавіка 1918 г. у 3-ай Устаўной грамаце Рады БНР — Беларусь абвяшчаецца вольнай і незалежнай дзяржавай...

*Бійце ў сэрцы іх, — бійце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць...*

М. Багдановіч

*Уладзімір АРЛОЎ:*

## “Я веру ў незалежную, цывілізаваную Беларусь XXI стагоддзя”

У Нацыянальнай бібліятэцы ў Беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра “Зніч” у студзені адбылася вельмі значная падзея - спектакль-сустрэча з пісьменнікам Уладзімірам Арловым “Адкуль наш род”. У спектаклі ўдзельнічалі актрыса Галіна Дзягілева, гітарыст Уладзімір Белышаў, паэтка Людміла Рублёўская, пісьменнік, драматург, літаратуразнаўца Пятро Васючэнка. Але ж галоўная дзеючая асоба — аўтар. Паміж Уладзімірам Арловам і гледачамі адбылася вельмі цікавая размова пра Беларусь, яе гістарычнае мінулае і яе будучыню.

**— Чаму менавіта беларуская гісторыя з’яўляецца тэмай Вашых твораў?**

— Я нарадзіўся ў Полацку, усё дзяцінства правёў на полацкіх вуліцах, шукаючы падземныя сярэднявечныя лабірынты, старажытныя скарбы. Гэта ўсё адбілася, безумоўна, на рашэнні пастулаць на гістарычны факультэт БДУ, дзе я зусім мала атрымаў ведаў па гісторыі Беларусі. Калі яе не ведалі мы, студэнты гістарычнага факультэта, то што казаць пра сярэднестатыстычнага беларуса. На той час у мяне ўжо былі пэўныя літаратурныя спробы ў самавыдавецкіх часопісах. Я падумаў, што мой абавязак як палачаніна, як чалавека, які вывучае гісторыю, прыглядзецца да гістарычнай тэмы.

**— Вы шмат вандравалі па свету. Ці існуюць у іншых краінах помнікі беларускай культуры, і наогул, што ведаюць пра нашу краіну і яе гісторыю?**

— Вядома, існуюць. Напрыклад, помнік Францыску Скарыну ў Празе. Музей-бібліятэка Скарыны ў Лондане. А побач з ім — беларуская уніяцкая царква святых апосталаў Пятра і Паўла...

Дзякуючы апошнім падзеям, напрыклад, збіццю паветранага шару, розным рэферэндумам, нечаканым арыштам, пра Беларусь існуе ў свеце не зусім добрая слава. Калі ў мяне былі літаратурныя сустрэчы ў Германіі, узнікала нават раздражненне, таму што заўсёды першае пытанне было пра Лукашэнку і яго інтэрв’ю, дзе ён хваліў палітыку Гітлера.

**— Ваша любімае выслоў’е?**

— Карабель, які не ведае, у якую гавань плыве, ніколі не дачакаецца спадарожнага ветру.

**— На ваш погляд, які перыяд у гісторыі Беларусі найцікавейшы?**

— Цяпер для мяне вельмі цікавы перыяд, які істотна перагукоўваецца з нашымі сучаснымі падзеямі. Гэта перыяд канца 18 стагоддзя. Сёлета будзе 225 гадоў, як адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай, калі Расія, Аўстрыя і Прусія пачалі разрываць на кавалкі Радзіму нашых продкаў. Расія адхапіла сабе Усходнюю Беларусь. Гаварылася, што лепей будзе жыць пад крылом Кацярыны II, што мы — братнія народы, што ўсе вольнасці будуць захаваны. На справе ж, калі ўвайшлі расійскія войскі, у гарадоў адабралі магдэбургскае права і старажытныя гербы. Пачаліся рэкруцкія наборы, якіх ніколі не было ў Беларусі. Пададкі адразу зрабіліся больш цяжкімі. Калі казаць канкрэтна, дык у 4—5 разоў цяжэйшыя, чым ва ўнутраных расійскіх губернях, бо ў Беларусі іх збіралі ў звонкай манеце, а там — у асігнацыях. На Сойме вельмі мала было мужных дэпутатаў, якія пратэставалі супраць падзелаў краіны. Большасць з іх думала пра свае прывілеі, а не пра радзіму.

**— Які попыт маюць Вашы кнігі за межамі Беларусі?**

— Пэўны попыт маюць, скажам, у асяроддзі замежных беларусаў. Бачыў свае кнігі ў некаторых бібліятэках у ЗША і Англіі. Але найбольшы поспех — у эсэ “Незалежнасць — гэта...” У свой час яно было перакладзена на 16 моў, і, на жаль, у Беларусі з кожным месяцам робіцца ўсё больш актуальным.

**— Ці сустракаліся Вы ў ЗША са спадаром Пазьняком?**

— Сустракаўся, у верасні. І са спадаром Навумчыкам таксама. Пазьняк вельмі цяжка пераносіць развітанне з бацькаўшчынай, і душой і целам імкнецца сюды. Гэта той чалавек, які атрымлівае жыццёвыя сілы, толькі стоячы на сваёй зямлі. Але ж ён там робіць вялікую справу: дзякуючы Пазьняку, яго публікацыям, брыфінгам, сустрэчам і ў Кангрэсе, і ў Сенаце ЗША, палітычны “істэблішмент” Амерыкі цяпер значна больш ведае пра сітуацыю ў Беларусі.

**— Як у сённяшніх абставінах павінен дзейнічаць грамадзянін Беларусі?**

—Ён і павінен дзейнічаць як грамадзянін Беларусі, а не як нейкая абстрактная асоба.

**— Як будзе называцца Ваша наступная кніга?**

— “Дзесяць вякоў беларускай гісторыі”. Яна ўжо даўно гатова, толькі чакае выдання.

**— Калі скончыцца ўсенародны сон розуму і сэрца?**

— Напэўна, тады, калі загаварыць галодны страўнік. І ўжо ёсць сімптомы.

**— Вы — паслядоўнік Караткевіча. У Вашых творах таксама прысутнічае каханне — глыбокае, моцнае. Але ў Караткевіча яно бесцялеснае. А ў Вас цела адчуваецца. Што гэта — тэмперамент ці даніна часу?**

— Рызыкну адказаць, што, можа, гэта сапраўды літаратурны тэмперамент.

**— Асцярожней са спадаром прэзідэнтам. Можна заляцець.**

— Той, хто занадта высока лятае, таксама можа “заляцець”. Так паказвае гісторыя.

**— Вы пісалі пра мінулае нашай краіны, а як Вы ўяўляеце сабе яе будучыню?**

— Пасля ўсіх цяжкіх выпрабаванняў народ, і найперш яго маладое пакаленне, абавязкова збудуе сваю дзяржаву. Я веру ў незалежную, цывілізаваную Беларусь XXI стагоддзя.

**Запісала Ганна СОУСЬ.**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Лені ФІШЭР: «БЕЛАРУСЬ ПАВІННА МЕЦЬ ВЫБРАНЫ, А НЕ НАЗНАЧАНЫ ПАРЛАМЕНТ»

**СА СТАРШЫНЁЙ ПАРЛАМЕНЦКАЙ АСАМБЛЕІ САВЕТА ЕЎРОПЫ ПАНІ ЛЕНІ ФІШЭР ГУТАРЫЦЬ ЖУРНАЛІСТ ЮРЫЙ СВІРКО**

*— 31 студзеня, у апошні дзень зімовай сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, Бюро ПАСЕ вярнулася да беларускай праблемы. Што адбылося на апошнім пасяджэнні бюро і што было вырашана рабіць з Беларуссю?*

**— На бюро мы абмеркавалі рэакцыю на наша рашэнне прыпыніць статус беларускага парламента як спецыяльна запрошанага ў ПАСЕ. Даволі многія адрэагавалі на гэта рашэнне, і асабліва з расійскага боку прагучала крытыка. Мы таксама абмеркавалі магчымыя меры, якія мы маглі б прыняць. Толькі што я атрымала прапанову Расіі правесці спецыяльны семінар па Беларусі ў Ноўгарадзе. Я думаю, што нам трэба будзе абмеркаваць гэту прапанову, а таксама пісьмо Міністэрства замежных спраў Беларусі, якое таксама толькі што прыйшло. Мабыць, я не павінна каменціраваць гэта пісьмо, паколькі на пісьмы не прынята адказваць у інтэрв'ю, але магу сказаць, што яно даволі цікавае. З розных бакоў паступаюць розныя думкі, якія мне трэба будзе прааналізаваць, але сітуацыя паказвае, што наша рашэнне было прынята на сур'ёзных падставах. Адначасова ў мяне складваецца ўражанне, што Беларусь — гэта краіна, якая па-ранейшаму зацікаўлена ў сумеснай рабоце з Саветам Еўропы.**

*— Якія ўмовы вяртання Беларусі ў Савет Еўропы?*

**— Мы не складаем спісы ўмоў, але адна з іх — мець выбраны парламент, а не назначаны. Нават калі хто-небудзь пажадае аспрэчыць гэта на той падставе, што такая Канстытуцыя і згодна з Канстытуцыяй парламент назначаецца. Гэта будзе толькі азначаць, што сёе-тое няправільна ў гэтай Канстытуцыі з пункту гледжання дэмакратычных стандартаў.**

*— Гэта значыць, Беларусь мае патрэбу ў новай Канстытуцыі?*

**— Відаць, што так. Але мы ведалі, што і старая Канстытуцыя 1994 года мела патрэбу ў рэструктурызацыі, таму што ўраду было складана што-небудзь рабіць. Для мяне асабіста было ясна, што патрэбны змены. Але на крок назад. Тым больш, не трэба было выносіць вельмі складаныя пытанні на рэферэндум, без сапраўднага тлумачэння яго вынікаў для парламентарызму.**

*— Ці прызнаяце вы стары парламент — Вярхоўны Савет?*

**— Мы лічым, што ранейшы, я хачу сказаць законны, парламент цяпер не мае сілы прымаць законы. Таму мы прынялі рашэнне прыпыніць дзеянне статусу спецыяльна запрошанага. Гэта робіць націск на палітычныя сілы і ўрад, каб яны пастараліся знайсці рашэнне і прыйсці да пэўнай згоды.**

*— Калі можа адбыцца спецыяльны семінар у Ноўгарадзе?*

**— Думаю, што нам трэба абмеркаваць умовы і сцэнарый гэтага семінара, якія прапануюцца расіянамі. Добра, што яны хочуць быць актыўнымі ў вырашэнні гэтай праблемы, паколькі Расія была ў значнай ступені ўцягнута ў яе і раней. Я маю на ўвазе начное пасяджэнне ў Мінску з удзелам Чарнамырдзіна і Селязнёва. І як горка яны былі расчараваны тым, што дасягнутае імі начное пагадненне не было рэалізавана на практыцы! Я добра магу зразумець імкненне Расіі вырашыць гэтую праблему і быць задаволенай гэтым рашэннем. Але якімі будуць нашы пасрэдніцкія намаганні, вырашае Парламенцкая асамблея Савета Еўропы. У нас ёсць дакладчыкі, ёсць палітычныя групы і камітэты ПАСЕ, і я думаю, што мы падыдзем сур'ёзна да гэтага і знойдзем, як, калі і з кім сустрэцца па праблеме Беларусі.**

*— Што яшчэ будзе рабіць Савет Еўропы ў адносінах да Беларусі?*

**— У саставе місіі Еўрапейскага саюза, накіраванай у Мінск, знаходзіліся два эксперты Савета Еўропы па прававых пытаннях. І можаце быць упэўнены, што іх справаздачы і высновы будуць самым старанным чынам вывучаны і праверваны Парламенцкай асамблеяй, перш чым бюро прыме рашэнне. Мы не спяшаемся.**

г. Страсбург.

## НЕ ЗАЗІРНУЎШЫ Ў СВЯТЦЫ...

*"ЛіМ"*

Не шкодзіць усё-такі, спадарове, час ад часу звяртацца да мудрасці народных прымавак. Хоць бы такой, як: "Не зазірнуўшы ў святцы, не бі ў званы".

Вакол нядаўняга паслання прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку, стаіць, як стаяў, устойлівы шум, хоць само пасланне ніхто, акрамя адрасата, не чытаў. І кожны рэагаваў на яго па-свойму. Аб'яднальнікі накшталт славянскага сабору "Белая Русь" узмацнілі намаганні на карысць хутчэйшага, ледзь не заўтрашняга аб'яднання дзвюх краін. А ў колах апазіцыі аркестры на поўную моц зайгралі жалобныя маршы і людзі гатовы былі скідаць ужо шапкі, каб праводзіць Беларусь у апошні шлях...

Аднак жа варта было прыглядзецца, "прынюхацца" хоць да таго нямногага, што было вядома з паслання, каб зразумець, што, як кажуць, "яшчэ курачка ў гняздзе..."

Маю ўвагу, да прыкладу, прыцягнула прыгожае замежнае слова — сінхранізацыя (яшчэ больш прыгожае, чым інтэграцыя), якое пракідваецца, казалі, у рабочым дакуменце расійскага прэзідэнта. Адразу згадалася нядаўняя рэпліка старшыні Кабінета Міністраў Расіі В. Чарнамырдзіна, што прагучала на адным з пасяджэнняў: "В конце концов, Беларусь думает синхронизировать с нами свои экономические реформы?"

Сінхранізаваць... Гэта не паставіць стрэлкі гадзінніка ў абедзвюх сталіцах у аднолькавае становішча, гэта працы — на гады. Пры вялікім жаданні. А калі яго няма? І калі праз колькі дзён тэкст ельцынскага паслання стаў вядомы, маскоўскія СМІ адразу загаварылі пра яго незвычайна жорсткі, ледзь не ультыматыўны тон. Патрабаванні Барыса Ельцына аб паскарэнні эканамічных рэформ у Беларусі (па прыватызацыі, акцыяніраванні дзяржаўных суб'ектаў гаспадарання), стварэнні адзінай нарматыўнай базы, уніфікацыі заканадаўства і сінхронным увядзенні падатковага заканадаўства, сінхранізацыі сацыяльных сфер гучалі як "апошняе папярэджанне". І ўсё ж, даючы тэлеінтэрв'ю з нагоды атрымання паслання, прэзідэнт Беларусі сказаў коратка: "Я очень рад, я очень счастлив".

Некаторыя наглядальнікі схільныя былі тлумачыць такую, мякка кажучы, стрыманую рэакцыю Аляксандра Рыгоравіча тым, што Барыс Мікалаевіч перахапіў у яго ініцыятыву у пытаннях інтэграцыі абедзвюх краін, сыграў на апярэджанне. Маўляў, А. Лукашэнка, які заўсёды адводзіў сабе ў гэтай справе першую ролю, зараз адсоўваецца на другі план. Магчыма, у гэтых развагах ёсць пэўны рэзон, але галоўнае не ў тым. Галоўнае крыецца ў пытаннях, што закранаюць эканамічнае і палітычнае жыццё Беларусі, ставяць яго ў залежнасць ад жыцця краіны замежнай. А гэта наўрад ці можна спакойна вытрымаць чалавеку з такім характарам, як у нашага прэзідэнта.

І яшчэ пра адну падзею, якая, на маю думку, ускосным чынам звязана са згаданай вышэй. Я маю на ўвазе нядаўнюю сустрэчу ў Гомелі прэзідэнтаў Беларусі і Украіны А. Лукашэнкі і Л. Кучмы. Улічваючы досыць напружаныя адносіны паміж Масквой і Кіевам, падкрэсленае дружалюбства, якое прадэманстравалі ў Гомелі беларускі прэзідэнт да свайго украінскага калегі, павінна было паказаць "старэйшаму брату", што не надта яго і баяцца, што мы, маўляў, і самі з вусамі. І гэта была не проста поза. Перамовы ў Гомелі і заключаныя там паміж абодвума бакамі пагадненні ў значнай меры накіраваны... на папярэджанне Расіі. Вядома, што Расія на мяжы з Украінай узвяла моцны мытны кардон, і ліквідацыя мытных перашкод паміж Беларуссю і Украінай, аб якой у Гомелі дамовіліся абодва кіраўнікі, дасць зараз украінцам магчымасць праз Беларусь увозіць у Расію тавары без мытных падаткаў. Некаторыя расійскія палітыкі ўжо падлічылі, што на гэтым Расійская Федэрацыя штогод будзе страчваць да 2-3 трыльёнаў рублёў...

І на завяршэнне яшчэ пра адно, што не магло не засмуціць. Сярод маскоўскіх каментатараў, якія выступілі з нагоды ельцынскага паслання А. Лукашэнку і да драбніц узважвалі ўсе "за" і "супраць" далейшай інтэграцыі абедзвюх краін, не знайшлося, здаецца, ніводнага, хто б, схамянуўшыся, вымавіў такія словы: "Панове, а мы гэтымі сваімі развагамі і прагнозамі не зневажаем нацыянальныя пачуцці беларусаў? Гэта ж такая тонкая і датклівая матэрыя..."

Калі б сярод тых каментатараў спрэс былі толькі зюганавы, бабурыны і жырыноўскія, дык тут, як кажуць, "взятки гладки". Але ж толькі глабальнымі інтарэсамі Расіі кіраваліся ў сваіх развагах людзі, што неаднойчы дэманстравалі сваю адданасць дэмакратычным ідэям, да прыкладу, тыя ж тэлевядучыя Мікалай Сванідзе і Яўгеній Кісялёў, не кажучы ўжо пра такіх палітыкаў, як Р. Яўлінскі, Я. Гайдар, А. Чубайс і некаторыя іншыя. Як тут не згадаць яшчэ адну прымаўку, ужо чыста рускую: "Своя рубашка ближе к телу".

**М. ЗАМСКІ**

## СЁННЯ СІТУАЦЫЯ — ІНШАЯ...

**ЛіМ.**

Пасля паразы ў вайне з Польшчай бальшавікі прапанаўвалі Пілсудскаму ўсталяваць расійска-польскую мяжу ў раёне Барысава. Хоць Пілсудскі быў палітыкам авантурнага складу, песціў думку пра "Польшчу ад мора да мора", але тут нечакана праявіў разважлівасць, нават мудрасць. Паслухаўшы дарадцаў, што даводзілі яму небяспечнасць сітуацыі, калі Польшча адкрывае рот на кавалак, які няздольна праглынуць і пераварыць; на тэрыторыю, якую немагчыма асіміляваць на працягу жыцця аднаго пакалення, — ён згадзіўся на меншае. Але і тыя беларускія і ўкраінскія землі, што былі ўключаны ў склад Польскай дзяржавы па Рыжскай дамове, Польшча асіміляваць *не здолела, а клопату сабе прыдбала.* Адной з прычын ваеннай паразы Польшчы ў верасні 1939 года быў і ўнутраны разлад краіны, выкліканы падзелам дзяржавы на ўласна Польшчу і "крэсы". Беларусы і ўкраінцы, якія ў Польшчы былі грамадзянамі другога гатунку, абыякава альбо нават варожа ставіліся да Польскай дзяржавы. Яны не сталі аказваць супраціву арміі, што прыйшла з Усходу...

Сёння, калі ідуць і цягнуцца размовы аб вяртанні Беларусі ў Расійскую імперыю, варта ўспомніць, які вынік мелі небяспечныя геапалітычныя гульні для народа, блізкага да рускіх па менталітэце. Трагедыя 1939 года, гады нямецкай акупацыі і потым палітычнай залежнасці ад Савецкага Саюза палякаў сяму-таму навучылі. У 1921 годзе Польшча і Расія дзялілі між сабою Беларусь, сёння Польшча падтрымлівае незалежніцкія сілы ў нашай краіне. Чакаць такога ад расійскай палітычнай эліты было б вялікай наіўнасцю. Палякі, на ўзроўні сваёй палітычнай эліты, усвядомілі, што лепей мець на мяжы добрага суседа, чым міннае поле; расійцы ж думаюць інакш, мяркуючы па каментарыях іх палітычных лідэраў на ліст расійскага прэзідэнта свайму беларускаму калегу, які па-ранейшаму застаецца ў ліку галоўных палітычных падзей і ў Беларусі, і ў Расіі.

Набыццё Незалежнасці — гэта вынік не толькі самаразвіцця нацыі, але і збегу вонкавых варункаў. У 1918 годзе Польшча была гатова стаць незалежнай краінай, але без падзення трох імперый — Расійскай, Германскай і Аўстрыйскай — гэта было б немагчыма. А стала Польшча суверэннай толькі пасля таго, як атрымала дазвол на суверэнітэт ад Англіі і Францыі — краін-пераможцаў у 1 сусветнай вайне, краін, якія фактычна кіравалі Еўропаю, пакуль зноў не ачунялі Германія і Расія (СССР). Зацікаўленасць Расіі ў аслабленні Турцыі спрыяла адраджэнню і набыццю дзяржаўнасці балканскімі народамі, што калісьці трапілі пад асманскі прыгнёт. Маналітны Савецкі Саюз быў гарантам раз'яднання Германіі — дэмантаж СССР стаў перадумовай уз'яднання дзвюх частак германскай нацыі. Сама Масковія ў сярэднявеччы атрымала шанц на суверэнітэт толькі, калі пачаліся крывавыя раздоры ў Залатой Ардзе, калі "цэнтру" стала не да "ўскраін".

Справа беларускай Незалежнасці таму ідзе так марудна, што дагэтуль ніхто ў свеце, акрамя нас саміх, не быў зацікаўлены ў існаванні суверэннай Беларускай дзяржавы. Пасля бальшавіцкага путчу 1917 года, калі імперыя памяняла афарбоўку і стала "государством рабочих и крестьян", частка заходніх ускраін, скарыстаўшы часовае аслабленне "цэнтра", аддзялілася. Тады Захад узяў пад сваё крыло Фінляндыю, Польшчу, Латвію, Жамойць, Эстонію. Беларусь і Украіну пакінуў Расіі.

Сёння сітуацыя — іншая. Сёння інтарэсы аб'яднанай Еўропы патрабуюць прысутнасці ў ёй Украіны і Беларусі. Больш таго, прысутнасці і Расіі, хоць Расія традыцыйна сябе Еўропе супрацьпастаўляе. Але, зразумела, у Еўропе чакаюць не сённяшнюю Расію — краіну з імперскім імпэтам, з ядзернай зброяй у руках амбіцыйных палітыкаў, з бальшавіцкім менталітэтам і "славянскім" месіянствам. У Еўропе жадаюць бачыць Расію, якая ўмее ладзіць з суседзямі, а бліжэйшыя суседзі Расіі — Беларусь і Украіна.

**В.ГРУШАЎСКІ**



## ЕЎРАПЕЙСКІ САЮЗ ІМКНЕЦЦА ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ДЗЕЕЦЦА Ў БЕЛАРУСІ

Місія Еўрапейскага саюза на чале з членам Дзяржаўнага савета Нідэрландаў Анры Коста прыбыла ў Беларусь, каб на месцы зразумець, ці адпавядае палітычная сітуацыя ў нас агульна прынятым дэмакратычным нормам.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, паводле каментара з гэтай нагоды міністра замежных спраў І.Антановіча, заявіў, што заходні напрамак знешняй палітыкі Беларусі па-ранейшаму застаецца прыярытэтным разам з усходнім. Гэта азначае, па словах міністра, што Беларусь будзе імкнуцца да інтэграцыі з усімі еўрапейскімі структурамі на аднолькавых правах як дэмакратычная, суверэнная дзяржава.

**Згодна інфармацыі БелТА.**

# Беларусь выставілі з Савета Еўропы

**13 студзеня бюро Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) прыпыніла на нявызначаны тэрмін статус Беларусі як спецыяльна запрошанай. Старэйшая і найбольш уплывовая арганізацыя на кантыненце, якая аб'ядноўвае 40 краінаў, не прызнае незаконны рэферэндум і нелегітымны парламент Беларусі. Аўтарытарны рэжым Лукашэнкі апынуўся ў ізаляцыі.**

Пра магчымасць такіх наступстваў прэзідэнт Парламенцкай Асамблеі Лені Фішэр папярэджвала беларускія ўлады яшчэ да рэферэндуму. Дзеля таго, каб разабрацца ў сітуацыі на месцы, яна наведала Мінск. Праўда, прэзідэнт Лукашэнка, адчуваючы, што пахне паленым, адмовіўся ад запланаванай раней сустрэчы з Лені Фішэр і правеў час на футбольным полі. Як кроплі на гарачы камень упалі заклікі дэлегацыі Савета Еўропы, якая пабывала ў Мінску ўжо пасля рэферэндуму. Еўрапейскія парламентары так і не дачакаліся ад прэзідэнта Лукашэнкі *«павагі да парламенцкай дэмакратыі і верхавенства закона»*. Затым палітычны камітэт ПАСЕ, засядаючы ў Лондане, вырашыў прыпыніць статус спецыяльна запрошанай Беларусі ў гэтай еўрапейскай арганізацыі. Апраўданні дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі з вуснаў блізкага паплечніка Юрыя Малумава выглядалі па меншай меры адыёзнымі. На бюро ПАСЕ сабраліся толькі пастаянныя члены гэтай арганізацыі, якія пацвердзілі рашэнне палітычнага камітэта ПАСЕ. Свае слова скажа і Парламенцкая Асамблея, на якую збяруцца ў канцы студзеня больш за 500 дэпутатаў нацыянальных парламентаў еўрапейскіх краінаў.

Старшыня Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр звярнула ўвагу на тое, што *«новая канстытуцыя ў Беларусі незаконная і не адпавядае мінімальным дэмакратычным стандартам»*. Галоўнымі ж практычнымі задачамі Савета Еўропы з'яўляюцца абарона парламенцкай дэмакратыі, правоў чалавека, верхавенства закона. Усе гэтыя прынцыпы аказаліся ўзурпаванымі прэзідэнтам Лукашэнкам. Пра якую парламенцкую дэмакратыю можа ісці гаворка, калі ніводзін дэпутат апазіцыі не ўвайшоў у склад новага «парламента» і ён сфармаваны выключна з верных лукашэнкаўцаў.

Савет Еўропы прынцыпова ставіцца да абароны дэмакратыі. Расія, якая была прынятая ў Савет Еўропы напачатку 1996 г., вымушаная была чакаць сваёй чаргі больш за год з-за крывавай вайны ў Чачні. Па прычыне недастатковай дэмакратычнасці і падтрымкі вайны ў Босніі з Савета Еўропы ў 1992 г. выключылі Югаславію. Цяпер такі ж незайздросны лёс напаткаў і Беларусь.

Каментуючы рашэнне бюро ПАСЕ, новапрызначаны міністр замежных справаў Беларусі **Іван Антановіч** сказаў журналістам на прэс-канферэнцыі, што *«ніякіх акцый ізаляцыі не адбылося. Бюро ПАСЕ прыняло рэкамендацыю аб прыпыненні членства ў якасці спецыяльна запрошанай – і кропка. Гэтае прыпыненне зроблена для далейшага высвятлення сітуацыі»*. Па словах І.Антановіча, падобная гісторыя была з Польшчай, калі Лех Валэнса распусціў сваім дэкрэтам Сейм. Праўда, польскі прыклад выглядаў прыцягнутым за вушы. Далей І.Антановіч кінуўся ў прапагандысцкую камуністычную патэтыку і, вядома, ад імя народа заявіў, што *«толькі народ Беларусі будзе вызначаць ад гэтага часу і навекі, па якой канстытуцыі яму жыць! Мы не пацерпім ніякага ўмяшання ў наш канстытуцыйны працэс! Мы нікому не абавязаны тлумачыць, чаму мы гэта зрабілі!»* Можна не сумнявацца, што і міністэрства замежных справаў адрэагуе такой жа патэтычнай заявай на рашэнне бюро ПАСЕ.

Але наколькі правільна разглядаць рашэнне Савета Еўропы «ўмяшаннем». Яшчэ з 1993 г. Беларусь сама прасілася прыняць яе ў СЕ, а ў чужы дом са сваімі правіламі ніхто не прыходзіць. Антановіч хоча, каб *«нехта адзін гаварыў голасам Беларусі ў Савеце Еўропы»*. Няцяжка здагадацца, пра чый голас ідзе гаворка.

Былы намеснік міністра замежных справаў **Андрэй Саннікаў** сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту СВАБОДЫ, што *«нашае знаходжанне ў Савеце Еўропы залежыць ад нас саміх, а не ад Захада. Мы не хочам прымаць цывілізаваных правілаў паводзін, але з намі ніхто не будзе гуляць па нашых правілах. Гэта самаізаляцыя. Цяперашняе непрызнанне парламента звалілася не з неба. Пра гэта папярэджвалі да 24 лістапада сур'ёзныя міжнародныя структуры і асобныя краіны. Прама было ўказана, што міжнародная супольнасць (асабліва еўрапейская) не зможа прызнаць вынікаў рэферэндуму»*.

Андрэй Саннікаў заўсёды адносіўся да ліку працаўнікоў ізаляцыі Беларусі нават у самых складаных сітуацыях. Але зараз, па словах Саннікава, *«ізаляцыя непазбежная. Калі дзяржструктуры Захада не прызнаюць афіцыйныя структуры Беларусі, то няшмат знойдзецца рызыкоўных людзей, якія будуць інвеставаць у нашую краіну, рызыкуючы сваімі грашыма, рэсурсамі, каб падтрымліваць беларускую эканоміку, якая разбураецца. Што тут падтрымліваць?»*

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# СПАД, ПАД'ЁМ ЦІ ЗАНЯПАД?

"Голас Радзімы"

Адна з асаблівасцей, але, бадай, не дзіўная, цяперашняга "эканамічнага моманту" ў тым, што ён, гэты момант, ацэньваецца ў самой краіне ці не процілеглымі адзнакамі: з боку уладных структур, зразумела, з пэўным аптымістычным гучаннем, са стану апазіцыі даносіцца глыбока песімістычны стогн. Вырашае ж, хто мае рацыю, канешне, толькі само жыццё, а дакладней, кожны з жыхароў Беларусі асабіста — зыходзячы з запоўненасці паліц уласнага халадзільніка і ўсяго таго, што ёсць у кішэні гаспадара. Пакуль для пераважнай большасці беларусаў змесціва і першага, і другога пакідае жадаць лепшага.

Самае галоўнае, што прыгнятае, — няспынны рост цэн. Так, ён быў і дагэтуль, але цяперашні ўсплеск перавысіў усе чаканні сярэднестатыстычнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, якога яшчэ на пачатку восені пераконвалі: вось пройдзе рэферэндум і "жить станет лучше, жить станет веселей". Не выключана, некаму сапраўды пасля атрыманай перамогі зрабілася значна лепей. Але вось толькі ў параўнанні са снежнем моцна паразлела смятана і малако (магчыма, клопат пра здароўе народа: тлустасць шкодзіць здароўю?), ялавічына на булёнчык стала даражэйшай ці не ў два разы (таксама, мабыць, каб залішні халестэрын не хапалі, лекі ж вунь ужо амаль ці не залатыя!), кошт адной паездкі ў метро, як і адной бутэлькі гарэлкі, працэнтаў на трыццаць "пацяжэў" — зноў-такі ніхто і не спрачаецца: піць трэба менш, а хадзіць пешшу больш, улічваючы, што і з бензінам "напряжёнка".

Дарэчы, пра апошні. У студзені нават быў уведзены яго лімітаваны продаж, зусім у адпаведнасці з шырока вядомым правілам бясконцых чэргаў часоў развітога сацыялізму: "больш двух у адны рукі не даваць". Праўда, у даным выпадку абмяжоўваліся іншай лічбай — толькі дваццаць літраў у адзін бак. А што рабіць? Няма бензіну: перакрыла Расія "кранік", маўляў, спачатку даўгі заплаціце, браткі, а тады не хвалюйцеся, зноў пацякуць да вас бензінавыя рэкі.

Ды Бог з імі, аўтамабілямі, у нашай краіне, як вядома, яны спакон веку раскоша, а не сродак перамяшчэння. Вернемся да лекаў. Нягледзячы на ўвесь клопат улад, няўдзячныя, несвядомыя грамадзяне працягваюць хварэць. Безумоўна, сённяшнія аптэчныя паліцы не параўнаць з колішнімі, нават трох-, пяцігадовай даўнасці. Тым не менш нярэдка даводзіцца чуць, што людзі больш і больш лечацца травамі, якія самі ж і збіраюць улетку. Магчыма нехта сапраўды лічыць такі варыянт лепшым за "таблетачны". Але часцей куфэрак адкрываецца проста: не хапае грошай на аптэчныя лекі. Значна расце кошт нават на тыя з іх, што жыццёва неабходныя. Напрыклад, нітрагліцэрын — "ежа" сардэчнікаў, за апошнія паўтара месяца падаражэў больш, чым у два разы! Але ў Камітэце *па цэнах лічаць*: "У краіне захоўваецца курс на правядзенне ўзважанай цэнавай палітыкі". Хто мае рацыю?

Пачатак сёлетняга эканамічнага года азнаменаваўся яшчэ адной значнай падзеяй: рэзкім успляскам курса долара і адпаведна падзеннем рубля. Некалькі дзён абменныя пункты скуплялі ў насельніцтва наяўную валюту па трыццаць тысяч беларускіх "зайцаў" за адзін амерыканскі долар. Хаця існуе меркаванне шэрагу спецыялістаў, што працэс той быў аб'ектыўны, улады палічылі такі курс спекулятыўным і скамандавалі "адкруціць назад". Зараз купляць долар больш чым за дваццаць дзве тысячы ніводзін банк не мае права, бо страціць ліцэнзію. Вось і стаяць грамадзяне ў чэргах каля "абменнікаў" суткамі, каб купіць валюту. Можна было б, канешне, ім і не спачуваць: няхай сваімі беларускімі грошыкамі цешацца, але ж мы жывем пакуль яшчэ не ў цалкам замкнёнай межамі прасторы, а за яе рубяжом нікому нашы гэтыя "грошыкі" не патрэбныя. Хіба што на сувенір?

А дзяржава ўсё клапоціцца і клапоціцца пра свой народ. Вось Камароўскі рынак у Мінску вырашана прывесці ў адпаведнасць з уяўленнямі ўладаў пра тое, "что такое хорошо и что такое плохо". Аказваецца, было дрэнна, што на Камароўцы прадаваліся многія тавары — прадукты харчавання значна лепшай якасці і таннейшыя, чым у магазінах. Не, само па сабе гэта было яшчэ цярпіма, але ж гандлявалі імі прыватныя гандляры, пасрэднікі, якія, зразумела, мелі з таго свой прыбытак. Вось апошняе і палічылі нясцерпным. Цяпер Камароўскі рынак — цалкам дзяржаўная ўстанова. Цяпер усім павінна стаць добра, незразумела толькі, чаму прылаўкі паўпустыя? Хаця ўсё ж такі зразумела, бо гэта мы ўжо праходзілі (прычым не так даўно), калі дзяржаўныя чыноўнікі кіравалі кожным нашым крокам і ўздыхам... Праўда, і тут можна расцаніць усё як клопат пра народ. Прылаўкі завалены рознымі там паляндвіцамі, філеем, вяндлінамі, каўбасамі... Цяжка. У каго грошы ёсць — цяжка, бо замарышся выбіраць. У каго іх няма — таксама цяжка, тут зразумела, чаму. Вось і вырашана глядзець у корань. Пусты прылавак — і ўсім лягчэй: адным не трэба мучыцца хадзіць выбіраць, а другім перажываць з-за адсутнасці грошай: няма дык няма.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# Украіна спадзяецца на беларускі калідор

"Свабода"

**Нечаканай і загадкавай была рабочая сустрэча, якую правялі ў Гомелі ў пятніцу прэзідэнты Украіны і Беларусі Леанід Кучма і Аляксандр Лукашэнка.**

Большая частка перамоваў праводзілася адзін на адзін. На сустрэчы з журналістамі прэзідэнт Лукашэнка выглядаў засмучаным, затое ягоны ўкраінскі калега быў вясёлым і ахвотна адказваў на пытанні журналістаў. Пасля перагавораў і падпісання чатырох пратаколаў, якія тычыліся пашырэння эканамічнага супрацоўніцтва і памежных пытанняў, Кучма выказаў задавальненне вынікамі сустрэчы. Ён адзначыў, што Украіна падтрымлівае інтэграцыю ў рамках СНД, але кожная дзяржава павінна берагчы свае нацыянальныя інтарэсы. Прэзідэнт Кучма падкрэсліў, што апошнім часам назіраецца пагаршэнне расійска-украінскіх адносінаў. На гэта Лукашэнка сказаў, што такая сітуацыя не на карысць супольнай справе, таму што тры «братнія» славянскія народы павінны цесна супрацоўнічаць.

Прэзідэнт Беларусі абверг інфармацыю, што ў лісце да яго прэзідэнт Ельцын прапанаваў інтэграцыйны рэферэндум. *«У лісце няма ні слова пра рэферэндум і дату яго правядзення»*, — зазначыў Лукашэнка, і дадаў, што гэты ліст трэба разглядаць усяго толькі як адказ прэзідэнта Расіі на ранейшыя прапановы Мінска. Кучма і Лукашэнка заявілі, што ў час іх перамоваў не закранался пытанне аб стане здароўя Ельцына.

Варта звярнуць увагу, што, не гледзячы на рабочы характар сустрэчы, у ёй прынялі ўдзел, акрамя прэзідэнтаў, вядучыя палітыкі абодвух дзяржаваў, міністры прамысловасці і ўнутраных справаў, начальнікі пагранвойскаў, міністры па надзвычайных сітуацыях. Некаторыя назіральнікі адзначаюць, што візіт Кучмы выглядае як непаслядоўнасць украінскай палітыкі ў адносінах да Мінска. Нагадаем, што Кучма адмовіўся ад сустрэчы з Лукашэнкам у Лісабоне.

Хутчэй за ўсё гэты візіт, які адбыўся па ініцыятыве Кучмы, трэба разглядаць у дзвюх плоскасцях. Па-першае, праводзіцца ён ужо пасля славутай прапановы Ельцына аб інтэграцыі і, па-другое (што адзначыў сам Кучма), на фоне пагаршэння расійска-украінскіх адносін (спрэчка за Севастопаль). Акрамя таго, украінскім таварам з кожным разам усё цяжэй перасякаць расійскую мяжу. Таму Кучма вялікі акцэнт зрабіў на памежнае беларуска-украінскае супрацоўніцтва, у тым ліку на гандаль таварамі без акцызаў і падатку на дабаўленую вартасць. Відавочна, што ўкраінцы хочуць выкарыстаць адсутнасць мяжы паміж Беларуссю і Расіяй і праз беларускі калідор атрымаць выхад на агромністы расійскі рынак.

**Уладзімір ШНУРОВІЧ**

•

Пераканаы халасцяк гаворыць сябру:
— Жанчыны — горш за гангстэраў!
— Чаму?
— Таму што гангстэры патрабуюць грошай, але ставяць перад выбарам — «жыццё або кашалёк». А жанчыны і жыцця не даюць, і кашалёк забіраюць!



# Як узнікла гісторыя пра «баевікоў»

СВАБОДА

**Нядаўняя заява дзяржсакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана аб тым, што *«у Ганцавіцкім раёне Брэсцкай вобласці быў выкрыты лагер па падрыхтоўцы баевікоў»*, выклікала здзіўленне ў жыхароў Ганцавіцкага раёна.**

*«Абмяркоўваючы гэты «анекдот», людзі хутчэй за ўсё смяюцца ці нават красамоўна круцяць пальцам каля скроні»,* — дзеліцца сваімі назіраннямі жыхар Ганцавіч Мікола Занька (ён з'яўляецца актывістам БНФ, а значыць — патэнцыяльным «баевіком»). Між тым, ніякіх баевікоў (ні мясцовых, ні прыезджых) ніхто пакуль у Ганцавічах не бачыў.

Мікола Занька і ягоныя сябры па невялікай суполцы БНФ лічаць, што гэтая гісторыя з «баевікамі» мае ўсё ж пэўныя карані. 12 студзеня ў Ганцавічах, у спортзале ПМК-7 адбыўся міжкалгасны турнір па міні-футболе. У ім удзельнічала і каманда калгаса імя Калініна, у склад якой уваходзіў эканаміст гэтай гаспадаркі Аляксандр Амельяновіч, чыя прыхільнасць да дэмакратычнага руху добра вядомая ўладам. Ужо калі турнір скончыўся і людзі разыходзіліся, Амельяновіча з сябрамі затрымала міліцыя. Па іх словах, у міліцыі з імі абыходзіліся вельмі жорстка, нават пырскалі ў твар газам, але галоўнае, чаго дамагаліся ад іх — падпісання пратакола, у якім сцвярджалася, што затрыманыя нібыта былі ў нецвярозым стане і хуліганілі. Сп.Амельяновіч назваў гэты дакумент лухтой і падпісваць яго адмовіўся; праз суткі яго выпусцілі. Але інфармацыя аб затрыманні *«нацыяналістаў, якія займаліся спортам»*, пэўна пайшла наверх і пачала абрастаць дадатковымі дробязямі, якія апраўдвалі б дзеянні ганцавіцкіх міліцыянтаў. Ці не атрымалася ў выніку як у той гісторыі: «лаві злодзея!» гучней за ўсіх крычыць той, хто сам з законам не ў ладах?

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Ці патрэбныя на Беларусі патрыятычныя баявікі? З усяго выглядае, што яны зьявяцца, — на ўзор чачэнскіх...




*Леанід Кучма:*

## «Україна выбрала шлях незалежнасці і выступае супраць ператварэння СНД у наддзяржаўнае фарміраванне»

**Падчас нядаўняга візіту ў Польшчу прэзідэнт Украіны Леанід Кучма даў інтэрв'ю газеце *Rzeczpospolita*. Адно з пытанняў тычылася вядомага паслання Ельцына Лукашэнку наконт перспектывы аб'яднання двух дзяржаваў.**

*«Маё нядаўняе спатканне з прэзідэнтам Беларусі ў Гомелі паслужыла лепшаму ўзаемаразуменню, — сказаў Л.Кучма. — Са словаў Лукашэнкі я зрабіў выснову, што Беларусь не адмаўляецца ад незалежнасці. І гэта вельмі добра.*

*З другога боку, Україна лічыць, што ніхто не мае права перашкаджаць той ці іншай дзяржаве ўступаць у тыя ці іншыя саюзы, аб'яднанні або міжнародныя арганізацыі. Між тым украінскі народ адназначна выбраў свой гістарычны шлях — шлях будаўніцтва незалежнай дзяржавы. Менавіта з гэтых пазіцый мы паставіліся да стварэння Супольнасці Беларусі і Расіі і да падпісання трыма дзяржавамі Сярэдняй Азіі дамовы аб вечнай дружбе.*

*Україна мае ўласныя погляды на супрацоўніцтва з іншымі дзяржавамі. Мы ясна акрэслілі сваю мэту — супрацоўніцтва з еўрапейскімі і трансатлантычнымі структурамі. На нашу думку, супрацоўніцтва ў рамках Садружнасці незалежных дзяржаў мае будучыню, асабліва ў сферы эканамічнай. Разам з тым Україна катэгарычна выступала і будзе выступаць супраць ператварэння СНД у наддзяржаўнае фарміраванне»*, — падкрэсліў Л.Кучма.

Як паведаміла польскай інфармацыйнае агенцтва *PAP*, прэзідэнты Польшчы і Украіны падчас сваёй сустрэчы адзначылі, што палітычная і эканамічная блакада Беларусі не будзе спрыяць стабілізацыі ў рэгіёне і можа змусіць беларускае кіраўніцтва да яшчэ большай інтэграцыі з Расіяй. **Таму Кучма і Квасьнеўскі гатовыя прыняць прапанову Лукашэнкі аб правядзенні сустрэчы кіраўнікоў Польшчы, Украіны і Беларусі.**

# МОВА НАША І ВАША

*Сёньня ў Беларусі ўжываюцца дзьве беларускія мовы, што ніяк не спрыяе кансалідацыі нацыянальных сілаў.*

Чаму ў нашай краіне — у параўнаньні зь яе сярэдненеэўрапейскімі суседзямі — усё адбываецца наадварот? Яны выйшлі або выходзяць з крызысу, у нас жа ён толькі паглыбляецца. Іх прымаюць у Эўрапарлямэнт, нас адтуль выкідаюць. Яны навялі ў сябе парадак, шануюць законы і свабоду, а ў нас ніхто ні за што не адказвае, законы "плахія", у турмы садзяць не бандытаў, а паэтаў і журналістаў. Яны стварылі свае дзяржавы, а ў нас задача — стаць часткай Расеі... Чаму?

Адказ просты: у суседзяў перамаглі сілы розуму і дабра. А ў нас — не перамаглі. Бо ня здолелі так, як у іх, аб'яднацца дзеля перамогі.

Адзін мой знаёмы журналіст кажа: у нас пацярпела паразу нацыянальная ідэя.

— У такім выглядзе, — удакладняю я.

— У такім выглядзе, — згаджаецца ён.

— А хто перамог? — пытаюся я.

— Ніхто, — адказвае ён.

Сапраўды, перамагла не якая-небудзь іншая ідэя альбо палітычная сіла. Перамог Ніхто. Перамагла гістарычная паўза, якую зараз запоўнілі ўчорашнія намэнклятуршчыкі, службісты, саўкі і братва. "Урламент", — як кажа другі мой знаёмы журналіст. Перамаглі так, як перамагае аўтсайдэр, калі фаварыт не выходзіць на рынг. Задача ніхтоў-пераможцаў — толькі вяртаць старое: сымболіку, ссср, сталіцу-Маскву і г.д. Бо ствараць яны ў прынцыпе ня здольныя. Але рэч ня ў іх. Рэч у фаварыце, які ня выйшаў на рынг. Рэч у тым, чаму ў нас не адбылося кансалідацыі сілаў розуму і дабра, як гэта адбылося ў нашых сярэнеэўрапейскіх суседзяў?

У нас ніхто не стаяў, узяўшыся за рукі, адным Балтыйскім Шляхам на працягу 700 км. і 300-тысячны мітынг не сьпяваў адну песьню. У нас "разборкі" дэмпартыяў паміж сабою і заляцаньне да ўладаў мела не эпізадычны, а часта вырашальны характар.

Магчыма, рэч у тым, што беларусы — сапраўды самая савецізаваная нацыя. І таму нават у першых шэрагах пад лёзунгамі незалежнасьці, дзяржаўнасьці і антыкамунізму стаялі людзі, якія паводле сутнасьці сваёй не перасталі быць савецкімі. Не было ў нас ганебнага слупа, да якога б цьвікамі прыбівалі партбілеты, не было ўнутранай люстрацыі, ці ня кожны пакідаў сабе нейкія шляхі для адступленьня.

І Рубікон не перайшлі. У адраджэнскім асяродзьдзі выгадавалася цэлая пляяда дзеячоў — экс-капээсэсьнікаў, якім прасьцей знаходзіць агульную мову з сучаснымі нэакамуністамі, чым з тымі кволымі зародкамі беларускага грамадзтва, якія паўсталі ўжо на тым беразе Рубікону — з маладымі адраджэнцамі. Па самым вялікім рахунку ніхто нічым не ахвяраваў. Таму ніхто толкам і не аб'яднаўся.

Ёсьць такія словы ў вершы Ігната Канчэўскага: **"Мы разам, бо нас яднае супольнасьць ахвяры"**...

Напэўна толькі С.Адамовіч сёньня ратуе гонар беларускай дэмакратыі. Але й гэтая ахвяра недаацэньваецца прасавечаным вокам. Знаходзіцца маса агаворак і апраўданьняў бязьдзейнасьці: то герой "не такі", то яшчэ што... Між тым, першымі заўсёды ідуць "не такія". А пасьля — усе астатнія. Толькі пасьля бывае ўжо позна.

Акрамя супольнай ахвяры аб'ядноўваць сілы розуму і дабра можа **супольны вораг**. Але разгледзець ворага амаль немагчыма, калі ты сам не прамыў вочы ад савецтчыны. "Савецкі беларус" Лукашэнка такімі вачыма ўспрымаецца зусім неадназначна.

У гэткім тумане размытых прынцыпаў і канстантаў беларуская дэмакратыя вароўжыць над уласным лёсам, спрабуючы зразумець, дзе ж яна і што робіць: ці то ў саўне абшчаецца з іванамі іванавічамі, ці то лічыць патроны ў туманнай пойме партызанскай ракі...

У нашых суседзяў найважнейшым кансалідантам стала **рэлігія**. У Польшчы кажуць, што "Салідарнасьці" не было б, калі б не было касьцёла. Адна рэлігія кансалідуе. У Беларусі як мінімум тры: праваслаўе, каталіцтва і нэапратэстантызм, якія сёньня хутчэй расколваюць грамадзтва, чым яднаюць.

**Гістарычная сьведамасьць** яшчэ настолькі кволая, дый не даецца яна за годдругі. Асабліва ва ўмовах недахопу літаратуры, фальсыфікацыяў, разброду гістарыяграфічных трактовак (то мы балты, то ня балты)... Словам, не кансалідуе таксама.

Памятаю, як летась 2 красавіка 50 тыс. чалавек апынуліся каля рэстарацыі "Канстантын", накрычаліся лёзунгаў, намахаліся сьцягамі і — адчулі нейкую пустату. Нібы рэсурс яднаньня быў вычарпаны.

Няўжо ўсё, што нас яднае — гэта сьцяг і "Жыве Беларусь!"? Але гэтага мала.

Там, каля "Канстантына" мусіла загучаць **песьня**. Натоўп мусіў засьпяваць. У нас, сьпеўнае нацыі (адных вясельных песень — шэсьць тушчэзных тамоў), — нібы ком у горле. Народ згубіў сваю песьню. Песьня, магутны кансалідант, не кансалідуе.

Падобна на тое, што толькі **мова** магла б стаць найбольш эфэктыўным зьяднальнікам беларусаў. Безь яе не спрацоўваюць ані незалежнасьць, ані дзяржаўнасьць. Але мовы ў нас таксама дзьве...

Наша мова прыйшла ў незалежнасьць і апазыцыю, так і не пазбавіўшыся дэфармацыяў савецкага часу. Яна стала антыкамуністкай, так і ня выняўшы з кішэні свой партбілет. Яна разьвіталася зь мінулым не рашуча і безаглядна, ня раз і назаўсёды, а як бы на час, як бы на ўсякі выпадак. Яна не перайшла водападзелу эпох, постсавецкае чысьцілішча і ня стала прынцыпам аб'яднаньня.

Мова падзялілася надвое. Дакладней, падзялілася яна яшчэ ў 30-я гады, калі **побач з проста беларускай мовай узьнікла беларуская савецкая мова**. В.Вячорка назваў проста мову **тарашкевіцай**, а савецкую — **наркомаўкай**.

(Я кажу "мова", бо гэта ня толькі розны правапіс, але й марфалёгія, і вымаўленьне, і лексыка... Мінск і Менск, рускі і расейскі...)

Нагадаю. Сучасны беларускі правапіс стварався ў пачатку стагодзьдзя, у нашаніўскую пару. Вынікам гэтае працы стала "Беларуская Граматыка" Браніслава Тарашкевіча (адсюль — тарашкевіца). У 1933 г. у кантэксце сталінскае палітыкі сваю рэформу беларускае мовы правялі народныя камісары (адкуль — наркомаўка).

Так паўсталі дзьве мовы, два законы, паводле характару і мэтаў скіраваныя ў адваротныя бакі: тарашкевіца імкнулася ўзаконіць жывую беларускую мову, падкрэсьліць яе багацьце, адметную гармонію і здольнасьць абслугоўваць усе сфэры жыцьця нацыі. Наркомаўка імкнулася "спрасьціць" беларускую мову, "наблізіць" яе да расейскай, падкрэсьліць яе "грубасьць" і ніздольнасьць перадаваць "глыбокія думкі" (апошнім гэтую тэзу ўзяў на ўзбраеньне А.Лукашэнка).

Пасьля татальнага ўвядзеньня наркомаўкі, якое адбылося ў 30-я гады паралельна зь фізычным вынішчэньнем соцень тысячаў лепшых прадстаўнікоў беларускае нацыі, тарашкевіца засталася жыць у эміграцыі, у несавецкіх беларускіх асяродках, якія за 60 гадоў так і не адчулі патрэбы перайсьці на наркомаўку, бо сталі на мэце выжываньне культуры, а якая культура можа выжыць на грунце сурагату?

Наркомаўка, якая стваралася для "зблiжэньня" з расейскай мовай, як бы закадаваная на гістарычную непазьбежнасьць русыфікацыі Беларусі, а тарашкевіца, створаная ў тым ліку і дзеля "водападзелу", — на незалежнасьць.

Як Ластоўскі стварыў першую нацыянальную гісторыю, так і Тарашкевіч стварыў сваю граматыку — каб паказаць самакаштоўнасьць гісторыі і мовы. У 30-я гады народныя камісары кіраваліся адваротным: паказаць несамастойнасьць гісторыі і мовы.

"Наша Ніва" № 3-4 (78)

Наркомаўка стала дэкаратыўным прыкрыцьцём русыфікацыі. Можна толькі дзівіцца, як усе гэтыя 60 гадоў сотні беларускіх пісьменнікаў у БССР пісалі літаральна сурагатам. Гэта ж усё адно як граць на піяніне бяз чорных клявішаў, без дыезаў і бэмоляў! Але сытуацыя зробіцца зразумелай, калі прыгадаць, што выступы старэйшых літаратараў Янкі Скрыгана і Максіма Лужаніна за вяртаньне тарашкевіцы ў 70-я гады ўспрымаліся як сапраўдныя акты грамадзянскае мужнасьці.

Тарашкевіца — гэта зусім поўная, не шчарбатая моўная "клявіятура". Тут улічаны ўвесь досьвед разьвіцьця беларускае мовы, у тым ліку, дарэчы, і традыцыя лацінскага шрыфту (тарашкевіца "канвэртуецца" на лацінку). Гэта значыць, што мы можам кірыліцай узнаўляць тэксты Багушэвіча, Каліноўскага, а не прафанаваць іх. Зь іншага боку, менавіта наркомаўка, гэтая паўмова, не заключаная ў рамкі пэўнае гармоніі і штучна набліжаная да расейскае мовы, паспрыяла легалізацыі ў грамадзкай сьвядомасьці так званай трасянкі. Сёньняшнiя намэнклятуры гаварыць так, як яна "хаціць", — ня сорамна.

Рэч у тым, што ў кантэксьце тарашкевіцы трасянка ўспрымаецца як адзін з стылёвых пластоў — як анальфабэтызм, як "некультурная мова". "Красіваму ўсё красіва". Па-свойму гэта толькі ўзбагачае мову. Бо ня мова характарызуе сама сябе, а носьбіт трасянкі паказвае сябе як анальфабэта. У кантэксьце наркомаўкі (зь яе тэндэнцыяй да спрашчэньня і русыфікацыі) трасянка калі і ўспрымаецца як памылка, то ў адным стылёвым полі. Гэта памылка тэксту і характарызуе яна самую мову.

Тое самае адбываецца і з русізмамі, якія ў тарашкевіцы ўспрымаюцца як барбарызмы, а ў наркомаўцы — як знакі фатальнага лёсу беларускае мовы, будучыня якой пад пытаньнем.

Спрабуючы пісаць макаранічныя (беларуска-расейскія) тэксты і трасянкавыя дыялёгі ў наркомаўцы, я як аўтар не дасягаю таго эфэкту характарыстык, якога дасягаю ў тарашкевіцы. У наркомаўцы такі тэкст успрымаецца як недарэчнасьць (что он эцім хацел сказаць?). Між тым такія дыялёгі бяруцца з жывое моўнае практыкі і адлюстроўваюць рэальнасьць.

Тарашкевіца кіруецца законамі ўласнае гармоніі, адсюль яе сьведамая "самадысцыпліна". Наркомаўка правяраецца ня ўнутраным гарманічным кодам, а акадэмічным слоўнікам і акадэмічнай граматыкай. Апошнім часам зьявіўся і сучасны тарашкевічны правапіс (часопіс "Спадчына" №5 за 1995 год). Ён здымае большасьць праблемаў ды разыходжаньняў і на парадак меншы за акадэмічны, але гэтага карыстальніку дастаткова.

**Стыхійнае беларускае адраджэньне канца 80-х, якое ўвасабляла моладзь, адразу і цалкам паслугоўвалася тарашкевіцай.** Усе (!) незалежныя дэмакратычныя выданьні выйшлі тады тарашкевіцай. "Беларуская Кроніка", "Беларуская Сьвятыня". "Беларуская Трыбуна", "Беларускі Калекцыянэр", "Навіны БНФ", "Свабода", "Студэнцкая Думка" (Менск), "Абуджэньне" (Магілёў), "Бабруйскі Кур'ер", "Вольнае Глыбокае", "Вольны Мазыр", "Івейская Крыніца", "Куцейна" (Ворша), "Пагоня" (Горадня), "Раніца" (Маладэчна) ды шмат іншых.

Мова ставала прынцыпам дэсаветызацыі, які трэба было ўвесь час сьцьвярджаць і адстойваць. Сьледам за незалежнымі пачалі пераходзіць на тарашкевіцу і некаторыя дзяржаўныя выданьні (напрыклад, часопісы "Бярозка" і "Спадчына"). У выдавецтве "Беларуская Энцыкляпэдыя", дырэктарам якога быў Б.Сачанка, пачалі паступова ўводзіць нормы тарашкевіцы (напрыклад, замест "з'ява" ўжо пісалі "зьява"). Гучалі галасы пра патрэбу моўнае рэформы, якая б узгадніла адзіны правапіс беларускае мовы.

Незалежныя выданьні чыталі. Іх тыражы дасягалі 10-50 тысяч. **Беларушчына ў яе дарэформавым выглядзе трывала зьвязвалася з дэмакратыяй і антыкамунізмам.** (У наступныя гады гэтая сувязь была разбураная.)

Ці магло быць інакш? Ці маглі адраджэнцы на мяжы 80-х і 90-х зрабіць стаўку на наркомаўку? Не. Па-першае, яны не маглі прыняць рэформу 1933 г. гэтаксама, як не маглі прыняць сталінскія рэпрэсіі. Па-другое, наркомаўка не магла быць прынцыпам, за які трэба змагацца, які трэба сьцьвярджаць, вакол якога можна яднацца. Бо гэта САВЕЦКАЯ мова. І яна ня можа кансалідаваць дэмакратаў гэтаксама, як савецкая сымболіка або беларускі савецкі гімн. **Дэмакратычная думка мусіла адцурацца ад злачынстваў папярэдніх рэжымаў.**

Дзе сёньня тыя тарашкевічныя выданьні? Большасьць сыйшла з арэны, некаторыя перайшлі на наркомаўку. Магутны аб'яднаўчы прынцып быў разбураны. Чаму?

Першыя нацыянал-дэмакратычныя ініцыятывы не былі падтрыманыя "кадравай" нацыянальнай інтэлігенцыяй. Мова ня стала кансалідантам.

Ці маглі тады, у 90-м, ЛіМ, часопісы СП, ТБМ перайсьці на тарашкевіцу? Маглі. І нават унутрана былі амаль гатовыя да гэтага. Але не перайшлі. Іх аргумэнты: народ і да наркомаўкі не прывык, а вы — з тарашкевіцай; настаўнікі беларускай мовы ня поймуць; у рэдакцыях няма карэктараў, якія б вычытвалі тарашкевіцу...

Што да дзяржавы, то яна, па сутнасьці ўсё яшчэ савецкая, ня толькі не прыняла несавецкую тарашкевіцу, але й стала змагацца з ёю. Некалькі гадоў таму А.Бутэвіч прысылаў ганцаў у дзяржаўныя выданьні, якія перайшлі на тарашкевіцу, з пагрозаю закрыць выданьне, калі ня здымуць мяккія знакі. Казалі нават, што ў тарашкевічных пэрыёдыкаў будуць забіраць рэгістрацыйныя пасьведчаньні.

*"Хай ведаюць хоць такую мову"* у аргумэнтацыі "кадравай" інтэлігенцыі нічым не адрозьніваецца ад *"Хай ведаюць хоць такую гісторыю"*. Але народ не прывабіўся ані хлусьлівай гісторыяй, ані дэфармаванай мовай. Народ прываблiваецца ўвогуле тым, што ёсьць **прынцып**, а не аморфная інэрцыя мінулых часоў.

Што ж, вынікі гэтае аргумэнтацыі ўсе ведаюць. Мы разбурылі прынцып кансалідацыі, мова засталася існаваць пераважна ў сваім спрошчана-русыфікаваным непрывабным абліччы. Як сурагат.

Калі ўважліва прасачыць сувязі, то мы ўбачым, што за савецкім часам наркомаўка ў БССР надавала ўсёй беларушчыне код чагосьці факультатыўнага, неабавязковага і не зусім сур'ёзнага. За гэтым як бачым толькі фармальным чыньнікам бачацца сутнасныя наступствы. У полі беларушчыны тады так і ня ўзьнік праваабарончы рух, а сёньня моўная беспрынцыпнасьць перарастае ў канфармісцкія дачыненьні з антыбеларускім рэжымам. Пэўная дыфузія паміж гэтым рэжымам і культурай, якая існуе на базе наркомаўкі, ужо становіцца рэальнасьцю. Што да тарашкевічных выданьняў, то форма адносінаў да іх адна — судовыя зыскі.

Наркомаўка не ўтрымае, ужо ня ўтрымлівае адраджэньня, якое стыхійна пачала тарашкевіца. Бо наркомаўка і сымбалізуе не самавітасьць, а бязродзтва.

З-за дзьвюхмоўя сёньня ў Беларусі не адбываецца пераемнасьці культуры. Лукашэнка дабівае старыя культурныя пляцоўкі, якія так і не пажадалі перайсьці Рубікон, а новыя пляцоўкі ўзьнікаюць на "гэтым беразе" на голым месцы. Між тым тарашкевіца набыла сваю вагу і скіраваная ў будучыню. Бо яе ўнутраны код — выжываньне. Выходзяць пэрыёдыкі, кнігі, нават слоўнікі. Можна толькі ўявіць сабе, колькі страціў гэты працэс з-за няўдзелу старэйшых! Але будучыня — за тарашкевіцай, якая возьме ўсё патрэбнае культуры з папярэдніх дзесяцігодзьдзяў. І пераклад на тарашкевіцу будзе абазначаць той самы Рубікон, водападзел эпохаў. Наркомаўка адамрэ разам зь яе карыстальнікамі, бо не арыентаваная на выжываньне.

**Тарашкевіца вымагае волі, самасьцьверджаньня і ініцыятывы.** Наркомаўка ж нічога гэтага не патрабуе.

Лукашэнка выдатна паказаў, што палітыканству немагчыма супрацьстаяць палітыкай. Яго можна пераадолець толькі культурай — жывой, дзейснай, ачышчанай ад дэфармацыяў, прынцыповай. Шкада, што гэтага ня хочуць разумець аўтарытэты старых культурных пляцовак, якія ставяць на мэце не выжываньне, а — дажываньне.

Ня ўзьбіўшыся на тарашкевіцу і аб'яднаньне вакол яе, інтэлігенцыя не спазнала салідарнасьці. Справа С.Адамовіча — яскравы прыклад. У абарону зьняволенага беларускага паэта выступаюць расейская, польская, ангельская інтэлігенцыя, міжнародныя арганізацыі. Ніводная творчая беларуская арганізацыя ані словам не азвалася на арышт паэта.

* * *



Ня ўзьбіліся і на незалежнасьць. Паўза працягваецца. Усе чакаюць, калі яе зойме якая небудзь ідэя або палітычная сіла, тады ўжо сьведамыя беларусы наплачуцца, нарыдаюцца над лёсам мовы, культуры, Бацькаўшчыны. Адзіным кансалідантам, як ні парадаксальна, стаў сёньня савецкі мэнталітэт.

Цяпер шмат хто кажа пра героя, які б перамог цмока. Але, на маю думку, такі герой можа зьявіцца толькі ў выніку ачышчэньня прынцыпаў і аб'яднаньня вакол іх усёй нацыянальнай дэмакратыі. Трэба перайсьці Рубікон (а не стаяць пасярод ракі) і цягнуць на той бераг усю краіну зь яе электаратам. Імкненьне незалежнікаў спадабацца народу прывяло да кепскіх наступстваў. Народу павінны падабацца нашыя прынцыпы, а ня мы самі, гатовыя сваімі прынцыпамі ахвяраваць. Мы мусім стварыць маральную большасьць. Якраз мова, ачышчаная ад дэфармацыяў, і стане "объеденителем" нумар адзін.

**Сяргей Паўлоўскі**

## *ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!*

**Кожны год у месяцы сакавіку Фонд Рады БНР праводзіць у замежжы збор дабраахвотных ахвяраў на ДАР САКАВІКА. Падзеі у Беларусі мінулага году, у рэзультаце ганебнага рэфэрэндуму, давялі да актуальнай дыктатуры Лукашэнкі, які паставіў сабе за мэту зьліквідаваць беларускую дзяржаўнасьць ды падпарадкаваць Беларусь Расейскай фэдэрацыі. У гэтым ён атрымаў падтрымку камуністаў, КДБ ды тых расейскіх палітычных плыняў, якія намагаюцца ўваскрасіць Расейскую імпэрыю...**

**На нашай дыяспары ляжыць вялікі абавязак інфармаваць вольны сьвет аб палітычнай сытуацыі ў Беларусі. Гэта вымагае фінансавых сродкаў. Заклікаем Вас паказаць Вашую адданасьць ідэі 25-га Сакавіка і злажыць дар паводле Вашых фінансавых магчымасьцяў. Беларускія навуковыя, грамадзкія і палітычныя ўстановы патрабуюць нашай матэрыяльнай дапамогі.**

**Дарагія суродзічы! Бацькаўшчына патрабуе дапамогі. Бацькаўшчына лічыць на Вашую любоў да Яе і Вашую гатоўнасьць на яшчэ адзін высілак злажыць ахвяру на Дар Сакавіка. Рада БНР.**

## «...Ваюй, народзе, за сваё чалавечае права»

«ПАГОНЯ»

**22 студзеня 1863 году, 134 гады таму, выбухнула чарговае паўстаньне беларусаў, летувісаў, украінцаў і палякаў за сваю незалежнасьць. 2 лютага 1838 году, 159 гадоў таму, нарадзіўся кіраўнік гэтага паўстаньня на Беларусі Кастусь Каліноўскі. Пра тых, хто праліваў крою за нашую волю, мы павінны памятаць ня толькі падчас сьвяткаваньня юбілейных датаў. Тым больш цяпер, калі гэтак актуальна гучаць словы Кастуся зь «Лістоў з-пад шыбеніцы», апошнія словы, якія ён пасьпеў сказаць да свайго народу.**



«Мужыкі, браты мае родныя! Спад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас і, можа, астатні раз. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мне народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль загінуць за тваю праўду. Прымі, народзе, да шчырасьці маё слова прадсьмертнае, бо яно як бы з таго сьвету толькі для дабра твайго напісана. Нямаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тады ён толькі ўрадзе жыць у дастатку, і тады толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, бо, узбагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца й народ свой цэлы шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу ня ходзяць разам, так і навука праўдзівая ня ідзе разам зь нявoляй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, ня будзе багацьця і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, а на пагібель нашу.

Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе спад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой Маскаля ўжо ня будзе».

Вера, асьвета, культура і воля. Гэтага жадаў Каліноўскі свайму народу.

За гэта ён і яго паплечнікі аддалі сваё жыцьцё ў спадзяваньні, што ўдзячныя нашчадкі будуць узгадваць пра герояў 1863 году ў вольнай краіне.

**Станіслаў Суднік**

Мікола ГРОДНЕЎ

# У БЕЛАЙ ЦЕМРАДЗІ, або СКАЗ ПРА ДЗЕВУ МАРЫЮ

"Беларусь"

(З прымусовага забыцця)



Напачатку мушу падаць даволі вядомы з сівой даўніны факт. Калі татара-манголы з асаднымі таранамі і каменямётамі аблажылі ўмацаваны горад Казельск, то апошнія ягоныя змаганцы, ведучы няроўнае пабоішча, у трагічнай безвыходнасці выставілі на крапасную сцяну сваіх дзяцей, каб тыя ўсё бачылі. А потым, калі хоць аднаму з іх пашчасціць выжыць, каб усё ўбачанае расказаў людзям.

Бадай, на сваю крапасную сцяну і мяне бацькі выстаўлялі. Хоць якая там сцяна. Наша хата і двор былі адгароджаны ад вуліцы толькі хілым штыкетнікам. А бараніліся бацькі не ад татара-манголаў...

Толькі праз шэсцьдзесят гадоў было засведчана дзяржаўным дакументам (дарэчы, мае бацькі ўжо не дачакаліся хітрасплеценых дакументаў), што тады ў нас былі "пасеяны зубы дракона".

На Вялікдзень з самае раніцы заманлівая вестка "хто не прыйдзе, той нічога не атрымае" імгненна абляцела ўсю нашу Алешню, а потым, калі з першае травы спала густая раса, нібыта чортава сіла паназганяла да нашага двара процьму ахвочых нешта атрымаць.

Колькі тады было гаманы, сваркі, лаянкі, дакораў, кпінаў... І крыку. Хто ўздзіраў паплёт на хляве, пуні і крышыў кроквы, хто валок нейкі набытак ці нажытак са стопкі, пограба, кладоўкі, хаты... Чуліся жальбы і галашэнне. То мая маці прасіла кожнага, хто нешта гроб і валок, прасіла літасці і спагады, каб апомніліся: "А людцы добрыя, ці ж вы не ведаеце, што мы з Петраком усё тут сваім мазалём". А ўпаўнаважаны сельсавета Касцюк Курыла, даўгалыгі і сутулы, з казлінай бародкай, чынна дыбаў па двары і падбухторваў: "Выграбай, забірай, маць іх у Сібір, кулаччо". — "А якія ж мы з Петраком кулакі? — лямантуючы, апраўдвалася маці. — Ці думаеш ты, Касцюк, што чаўпеш?". Нейкі момант ён лыпаў вачыма, рабіў бязладныя рухі, нарэшце люта ашчэрыўся: "Дык я не думаю, чаўпу... Ды я ж зараз з цябе юшку чорную..."

Можа б і падмылася тады маці крывёю, калі б не падхапіла мяне на рукі, а Курыла толькі завыў, як воўк на грамніцы: "Халера цябе вазьмі, чаго дзіцёнка выставіла?"

Маці, канечне, не ведала таго факта з гісторыі пра Казельск ды ўсё ж адпарыравала:

— А каб дзіцёнак усё бачыў... Можа людзям раскажа.

Нас раскулачылі. Забралі ўсё. Пакінулі пустую хату ды рабую сучку. У дадатак — горкую насмешку, каб "маліліся Богу, што яшчэ так", а то маглі б і к чорту на рогі загрымець.

Каб раскулачыць, была на тое "прычына". Вясной зайшла ў нашу хату дзяўчына, хутчэй — цень ад тае дзяўчыны. Напілася вады са слязьмі, потым стала жаліцца: "Бежанка я, з Палтаўшчыны. Ад голаду... усе-ўсе мае: і татка, і мамка, і дзве сястрычкі, а я во". Бацька тады паглядзеў на маці: "Як ты, Марына?" — "Як ты, так і я", — пагадзілася з бацькам і маці. Тая Маруся і засталася ў нас. А ўвосень, калі ў Алешні сталі выяўляць кулакоў, сход зацягнуўся як не да ночы: не было каго раскулачваць: усе бедныя, усе жывуць са свайго мазаля. "Не можа быць, каб у Алешні ды кулака не знайшлося, — не пагадзіўся са сходам Курыла. І тут жа падказаў: — А ў Петрака ж наймічка!"

А не загрымелі мы на халодныя землі з-за бацькавага пляменніка. Пляменнік якраз запасіліі тады на службу ў органы. Праўда, сказалі: "Як гэта будзе выглядаць: дзядзька твой — кулак, а ты — у органах?". Пляменнік, трэба сказаць, больш сябе тады выгароджваў, чым дзядзьку. Ды і за дзядзьку ўсё ж заступіўся. Не выслалі нас з Алешні — "абкалалі індывідуальна". А калі б выслалі... Не было б, вядома, і гэтых радкоў — не было б мяне. Нават косці нашы не належалі б бацькаўшчыне.

Мо таму ўвесь час хочацца запоўніць пустату прымусовага забыцця, якая даўно наводзіць на мяне жах, — прайсціся па той усланай касцьмі дарозе, па слядах акурат такой жа, раскулачанай, але і высланай сям'і.

## ГЕКТАРЫ ЎМАЛОТНАЙ БЯДЫ

Тое лета, пасля зіма і яшчэ лета для Эмілі і Адольфа Шацілы былі вясной — казачнай, краснай! — якая закончылася вяселлем. Маладой сям'і зафундавалі дзесяціну зямлі. І сталі яны шчыраваць на той дзесяціне. Ды раптам Адольфа забіраюць на армейскую службу. Праз які час ён атрымлівае ліст ад Эмілі. А ў тым лісце што ні слова — прамочана слязьмі: хата згарэла. Адпусціў камандзір яго дадому. А дома — гэта ў Тамашэвічах, што пад Мінскам, — талакой памаглі людзі новую хату паставіць, маўляў, жыві сабе, Шаціла, як усе астатнія. Можа б і жыў, калі б не выклікалі ў сельсавет і не прапанавалі яшчэ дваццаць гектараў ворнай зямлі і дзесяць сенажаці. Каб жыў ды маладзеў, багацеў ды дабрэў. Пагадзіўшыся на восем гектараў ворнай і чатыры сенажаці, і пачаў жыць і разжывацца Шаціла. За хлопчыкам Альгердам у сям'і нарадзілася дзяўчынка Марыйка, за ёй — Лёля, Рэня.

Спраўляўся Адольф, як мог. Эміля — больш дома, чацвёра ж дзяцей! Ды неяк пад вясну, калі збіралася раджаць пятага, падкаўзнулася ў гумне на таку ды жыватом аб аглоблю. Адно што з жыццём не развіталася. Ажно паўгода прыйшлося ляжаць у бальніцы. Адольфу было хоць крычма крычы: у полі і гумне, нават па гаспадарцы неяк спраўляўся, а вось за малымі не было каму глядзець. Прыйшлося папрасіць родзічку. Тая родзічка дзецям хоць крупнік варыла. А там і жніво настала. Думалася, вернецца Эміля з бальніцы ды, як заўсёды, сажне палоску за палоскай. А яна яшчэ хваравітая ды слабая. Памелася пляменніца жыта зжаць, каб Эміля ёй да вяселля што пашыла. Зімой жа ў Тамашэвічах сталі выяўляць кулакоў і прыгадалі, што Шаціла трымаў наймічку ды яшчэ падзёншчыцу наймаў на жніво.

Неўзабаве новы старшыня сельсавета (назавём яго Кадуцкім) выклікае Шацілу ў сельсавет і кажа, што яго, Шацілу, запісалі на высяленне. Яшчэ папікнуў, што наймічку трымаў ды яшчэ наймаў падзёншчыцу на жніво. Як ні апраўдваўся Шаціла — не памагло.

І вось для сям'і Шацілы (а гэта было 3 сакавіка) дома настала апошняя ноч, якая не скончылася раніцай. Яшчэ ўвечары прыйшлі сельсавецкія дэпутаты, каб на золку, яшчэ да трэціх пеўняў, вывезці іх з Тамашэвіч, цішком нават ад суседзяў. "А куды ж будзеце праводзіць?" — спрабавала дапытацца Эміля. "Не прынята гаварыць наперад — куды", — пачула ў адказ.

## НЯЎЖО КРЫЖАМ ПАМАЛІЦЦА

На станцыі высяленцаў размеркавалі: каго ў які вагон. Прыкладна — па дзевяць сем'яў у кожны. Шацілу выдалі цэтлік у адзінаццаты. А паколькі пажаліўся ў канторы, што ягоная сям'я з малымі дзецьмі, то пісар адразу перапраўвіў у цэтліку сёмае месца на другое. У тым жа, канечне, вагоне. І мала таго, што ў вагоне была праломлена падлога, у сцяне свяцілася дзюрка, праз якую мог бы праскочыць сабака. "Дзе ж мы табе, Шаціла, купэйны возьмем, — адмахнуўся начальнік станцыі, — які нам далі, такі, во, і табе... А што дзюрка — саломай заткні".

І вось у тым вагоне, а такіх вагонаў аж цэлы эшалон, іх павезлі.

Ехалі няроўна, момантамі збаўлялі ход, і эшалон рухаўся, як па смале. А то наогул тармазіў і падоўгу стаяў. Так з дня ў дзень. І бясконца, у халоднай роспачы і поўнай бездапаможнасці, зусім абыякава і ўжо з аслабелым кволым хрыпеннем дзеці прасілі то яды, то цяпла. І плакалі, бясконца плакалі. Іх, канечне, як маглі, супакойвалі: то расказвалі казкі пра Бабу-ягу, Кашчэя ці Паганца Цюка, то, хто моцна кашляў, частавалі апошнімі цукеркамі. Эміля, як магла, угаворвала дзяцей, абяцала, што яны скора заедуць. Ім там дадуць хатку, у хатцы будзе цёплая печ. Яшчэ ў іх будзе поле. Лёля з Марыйкай будуць жнейкі. Будуць жыта жаць, у снапы складаць... "А вечарком я кароўку падаю, сырадойчыкам вас напаю".

— Нічога там нам няма, — не паверыла Лёля. Пасля таго, як адкашлялася, быццам па жывому разанула: — Мы едзем там паміраць.

Паміраць... Што яна сказала? Ёй жа ўсяго чатыры годзікі... Бабка, што войкала побач, праз сілу патлумачыла: "У дзяцей жа што ў галаве і на языку, тое і будзе". І на табе: на другі дзень вынеслі з суседняга вагона першага нябожчыка — трохгадовы хлапчук сканаў ад прастуды.

І далей ехалі. І зноў выносілі, выносілі і дзяцей і мужчын. А потым ужо нікога не выносілі. Здавалася, зжалілася над людзьмі смерць. Нарэшце, калі эшалон запаволіў рух, а гэта было недзе тыдні праз два халоднай, невыноснай дарогі, да Шацілы даляцела доўгачаканая вестка: "Прыехалі..." Зірнуў ён у адну-другую шчылінку: наўкола белая, лютая пустэча. То куды ж прыехалі?

Потым была ўборка. З вагонаў выносілі мерцвякоў. З усіх вагонаў адначасова. Паскладвалі іх у адну кучу. Накрыць не было чым — прысыпалі снегам. Са снегу тырчалі босыя ногі, голыя плечы...

Эшалон крануўся. Куды — бадай, мала каго цікавіла. І паехалі, паехалі. За даўжэзную, недзе ў цэлы месяц дарогу, высяленцы і знебыліся і атупелі, нават страцілі здольнасць аб чым-небудзь думаць. Таму новая вестка, што ўрэшце іх завезлі ў Котлас, успрынялася і гэты раз з цяжкай апатыяй: што Котлас, што якая іншая станцыя!

Пасялілі ў бараку, потым перагналі — якое дзіва — у царкву, але ў царкву без крыжа, дзе пад купалам фрэскавых роспісаў цясніліся трох'ярусныя нары. Зноў-такі для іх... хто застаўся пакуль жыць. І раптам: "Ціха, ціха!" — разанула ў вушах каманда. То крычаў, сказалі, сам камендант. Побач з ім стаяў чалавек — у шынялі і будзёнаўцы, яшчэ з хатылём за плячыма. Чалавек той абвясціў, што з Беларусі. Прыбыў сюды, каб з дазволу бацькоў вярнуць на волю колькі падлеткаў: "Хто даверае сына ці дачку, прашу да мяне". Адольф хутчэй да Эмілі: "Трэба Альгерда адправіць, іначай усім нам тут будзе каюк". — "Можа, і праўду кажаш", — пагадзілася яна. Доўга раздумваць не было калі. Адольф — за руку Альгерда і хутчэй да каменданта. Праз паўгадзіны бацькі развіталіся з сынам. Пажадалі яму "Да пабачэння", а так здарылася... ці не зарана гаварыць, што пасля здарылася з ім.

Усю ноч Марыйка то ўсхоплівалася на нарах і кідалася да дзвярэй, каб дагнаць Альгерда і сказаць яму, каб вярнуўся, то яе не пускалі з тых нараў і яна душылася плачам. Адзінага яе братку адправілі паміраць, Рэньку закапалі на могілках, Лёля не ўстае і ці ўстане, а што ж будзе з мамкай і таткам?

Адольф і Эміля цяпер засталіся з адзіным дзіцёнкам — Марыйкай, і тая ці выжыве. Доктар, як мог, суцяшаў: "Вы ж яшчэ маладыя, дзеці ў вас паявяцца. А яна ўсё роўна жыць не будзе. Хоць, можа, неяк і выкараскаецца, дык будзе хварэць да вяку. Усё роўна такія мала жывуць". А праз колькі дзён адпраўка. (Якраз па Паўночнай Дзвіне пайшлі параходы.) А куды адпраўка далей... зноў той жа адказ: не прынята гаварыць загадзя — куды.

## ГЛЫТОК ХАЛОДНАЙ ВОЛІ

Пасля Адольф Шаціла будзе ўспамінаць тое лета. На першым часе здалося, што на выселках для іх усё ж дастаўся глыток волі, праўда, халоднай, ды ўсё ж волі. Наўкола бушавала разводдзе, раніца выдалася цёплая, сонечная. Спявалі птушкі. "Якія ж тут чортавы рогі, — першае, што падумалася Адольфу. — Тут людзі жывуць на шырокую нагу. Хаты шаляваныя дошкамі, накрытыя драніцай. Некаторыя ў два паверхі, з балконамі, на аканіцах — разьба. І столькі гоняць сюды народу".

Калі Адольф пахадзіў па Тойме, пабачыў навакольны лес ды поле, пагутарыў са старажыламі, то ўпэўніўся, што жыць тут можна... Нават — з аднаго лесу. Тым часам выздаравела яго Марыйка, пасяліліся ў гаспадара на кватэру. Загадалі — на лесапавал. І яму, Адольфу, і Эмілі, і ўсім-усім. Адольфа камендант папярэдзіў: "Будзеш у мяне за брыгадзіра. Пад тваю каманду сорак адлюдкаў. Каб ударныя ўсе былі. І каб кроў з носа — план".

Як не падзякаваў Адольф за давер. А калі разабраўся, пайшла галава кругам. Адлюдкі — гэта вінаватыя. Брыгадзір павінен будзе біць "вінаватых" "дрынамі" (палкамі), ставіць узімку на марозе ў адных нагавіцах, улетку — на з'ядзенне камарам і сачыць, каб работа была "ўрочная". А на "ўрок" давай свой план: першай катэгорыі мужчын (дужэйшым) — па шэсцьдзесят пяць дрэў, другой (слабейшым) — па сорак пяць. І спілаваць тыя дрэвы пры самым пні. Улетку гэта яшчэ нішто, а зімой, калі снег даходзіць часам да грудзіны?

Адмовіўся Адольф. І ў той вечар не вярнуўся да сям'і. За палітычную ненадзейнасць, за сабатаж лагернага парадку, як было запісана ў пратаколе арышту, напачатку яму звязалі рукі, потым — даставілі ў камендатуру і, як зацятага "наўмыснага зрыўшчыка па выкананню плана на лесанарыхтоўках", кінулі за краты.

## ШТРЫХІ ДЛЯ ВУЗЯЛКОЎ

Помніць Марыйка, як татку панеслі на насілках за дзверы, у цёмную ноч. А можа і рады дадуць, у бальніцы ж яго вярталі да жыцця. Можа, і гэты раз вернуць? То як жа яны без таткі? Не, татка не пакіне іх. І на табе: кволая надзея, што трывалася на валасінцы, абарвалася. Назаўтра з бальніцы дайшла страшэнная вестка: Шаціла памёр.

Пасля смерці мужа Эміля не магла дабраць розуму, як ёй выжыць з дзецьмі. (На выселках у іх нарадзіўся хлопчык — назвалі Антонам). Была б яна, скажам, на волі, а тут... Тут за яе падумала начальства. Паколькі яна павінна быць штодня а сёмай гадзіне на пілараме і не пакідаць тую пілараму, пакуль не выканае норму, не пакідаць нават да позняга вечара, начальства нібыта зжалілася — перавяло яе ў Глядзілава. Але не ў асобную кватэру — у барак, і не ў якую-небудзь там бакоўку, а ў агульны пакой, дзе ўжо ледзьве мясціліся шаснаццаць адзінокіх жанчын. А дзяцей... Пра дзяцей таксама паклапацілася начальства: Тоніка (Антона) — у яслі, Марыйку — зноў на чацвёрты пасёлак, дзе яна пакутавала, галадала.

Пабыла наймічкай. Усё-ўсё рабіла: і дзіцёнка глядзела, падлогу, бялізну мыла... А кармілі яе хлебам ды бульбай — шклянкі малака, і тае шкадавалі. Потым парашыла пайсці да таткі. На снегавым покрыве тырчалі адны крыжы. А снегу таго па грудзі. Во, і таткаў крыж. Стаілася, што ж скажа татка? Але хоць бы ветрык дыхнуў. "Татачка, родненькі, — загаварыла яе адчайнасць, — дзе ж я падзенуся? Адусюль мяне гоняць. То я во і прыйшла. Прымі мяне, татачка, да сябе. Да каго ж я яшчэ... толькі ж да цябе, родненькі". Потым прысела ў снег. Стала цёпла, сцішылася. Яе стаў агортваць салодкі сон, ды пачула, што паблізу нехта загаласіў — хвалі нябожчыка. А яшчэ пачула: "Глядзіце, дзіцёнак сядзіць".

Не далі ёй замерзнуць на таткавай магілцы. Не далі Марыйцы ўтапіцца і на прыстані. Тут якраз падвярнулася фартуна. Баракі ў Глядзілаве, дзе тады жыла маці, значна апусцелі: уначы пад канвоем адправілі некуды мужчын, удзень начальства выклікала да сябе недзе да дваццаці жанок. І тыя як у ваду канулі. Некалькі кабет выдварылі ажно ў Манастырок пераймаць на рэчцы лес. У іх ліку апынулася і Шаціліха з Марыяй. Маці ўручылі крук на доўгай жэрдцы і паслалі на рэчку. "А дзіцёнак чаго тут?" — спытаў у маці начальнік. "Дзяўчыне ўжо васемнаццаць гадоў, — зманіла, каб начальнік не прагнаў чатырнаццацігадовую Марыю. — А што малая ростам... дзе ж ёй было расці? Што толькі на выселках не перанесла: і голад, і холад, і хваробы розныя". "Васемнаццаць, кажаш? — перапытаў начальнік. — А ці граматная хоць, ці будзе з яе ўчотчык?" — "Чаму ж не будзе", — за Марыю адказала маці. А ў канцы лета той начальнік як не за галаву схапіўся: гэта ж трэба, на ўчотчыка дзіцёнка яму падсунулі! Добра, што чэсна працавала. Давялося разлічыць Марыю і адпусціць на вучобу — малалетняя ж яшчэ.

А неўзабаве пайшла ноч у пекле кіпець — пачалася вайна. Мужчын кінулі на фронт, жанчын паслалі на іхняе месца: і на лесанарыхтоўкі і на лесабазы.

Марыі прапанавалі... калі б даяркай у калгасе, а то — узяць на сябе ўсю малочнатаварную ферму. І адразу заняпала духам. Яшчэ зялёная, нявопытная, каб узяць такую ношу на сябе. А яшчэ камендант настрашыў: "Узялася, дык кроў з носа — каб падзяжу ні адной галавы, бо раптам што якое — табе не знасіць галавы".

А зіма рана лягла. Караняплоды, якія былі, пад снегам засталіся. Можа б і голасам загаласіла, калі б не маці: "Хныкаць ды хавацца ў кусты — вялікага розуму не трэба. Цяпер жа вайна. А ў вайну за паніку, сама знаеш — кулю ў лоб. Антону адзінаццаць гадоў, Антон справіўся за плугам, то як жа ты не справішся з фермай?"

І Марыя ўзялася. Даяркамі працавалі старэйшыя жанчыны, нават дзве высланыя настаўніцы. А каб нешта было надаіць, трэба былі кармы. У лесе лезлі па грудзі ў снег — наломвалі бярозавых галінак, запарвалі з саломай... і галава яе засталася на плячах. Усе, як адна, выйшлі каровы на вясну.

І так, пакуль не скончылася вайна. Яна нарэшце ўжо не ведала, што больш берагла: ферму ці сваю галаву. І ўсё ж і сябе зберагла і ферму вывела як не ў перадавыя па раёне.

## КРОПЛЯ, ШТО СТАЛАСЯ АПОШНЯЙ

Зверху далі каманду, каб на нараду прыбылі і загадчыкі калгасных фермаў. От і ёй мусілі наказаць, мо для таго толькі, каб узгрэць, маўляў, чаму яна, загадчыца фермы, не падвоіла, не патроіла надоі.

У пазычанай хустцы, кофце, спадніцы, як і было загадана, досвіткам яна стаяла за ваколіцай пасёлка — чакала камендантаў. Нарэшце, калі паказалася сонца, вынырнула з пасёлка і падвода. Адзін вараны быў у аглоблях, другі — у прыпрэжцы. Няйначай, кожны камендант выбраўся на сваім вараным.

На калёсах паказалі месца і для яе — на задняй восі.

Каменданты спачатку маўчалі. Потым Тарлецкі загаварыў да Бяспалава: "А прызнацца табе, мне яшчэ не даводзілася быць у гэтай Согры". "А мне далася ў знакі гэтая Согра... калі Галенчыка лавіў. — Каб надаць значэнне сказанаму, паўтарыў: — Што далася дык далася".

"Галенчыка... Няўжо нашага Галенчыка?" — насцярожылася, сцялася ў камок Марыя. Яго ж даўно не стала. Казалі, што ў армію забралі, ажно... Ён жа таксама з Тамашэвіч. Галенчыкаў на год раней выслалі. Вялікая была сям'я. І ўся сцёрлася. Хто скарчанеў у дарозе, хто ўжо тут струпянеў. Аднаму яму неяк собіла выкараскацца. Стараўся ладзіць з усімі, кожнаму распарадчыку гадзіў, як ліхой скуле. Бывала, толькі-толькі дзень пачнецца, а ён ужо і ў полі ўправіўся пабыць і з лесу жэрдку нейкую нясе. Перабраўся ў Согру: там, у лягасе, вольнанаёмным больш плацілі. І раптам уначы яго не стала.

— Цэлы тыдзень хадзіў за ім, — працягваў як не скардзіцца Бяспалаў. — Прыйду: кажуць, быў — цяпер няма. Потым наказваюць: з'явіўся. Я — туды: няма. І так цэлы тыдзень. І ўсё ж я яго сцапаў... аж у дзве гадзіны ночы.

— А куды яго падзелі? — не стрымалася Марыя.

— Куды-куды... — не ведаў, што прыдумаць Бяспалаў. Замест яго адказаў Тарлецкі:

— Пад елку.

— А чаго яго пад елку? — з дзіцячай наіўнасцю запытала Марыя.

— Смалу вазіць — во чаго.

— А дзе ён цяпер? Можа, каму ліст даслаў?

— Адтуль грэшнікі пісьмы не шлюць, — Тарлецкі даў зразумець, што пад той елкай Галенчык даўно лёг касцьмі.

— А што ён такое... нарабіў?

— Ды нічога...

— Тады за што, за што яго?

— Так трэба, — як адсек Бяспалаў.

Пачула б, скажам, Марыя пра каго іншага, можа б, гэтак не кальнула ёй у сэрца, а пра Галенчыка... Ён жа за сваё жыццё мухі не пакрыўдзіў. Хіба, можа, толькі пажаліўся каму, што цяжка жывецца. Марыя Зубрэй, пэўна, недзе канае яшчэ, а Галенчык даўно зямлю парыць. За што, за якую правінку? "Так трэба", — гыркнуў Бяспалаў. А ці ж даўно гэты Бяспалаў змушаў яе распісацца, засведчыць тое, чаго не ведала, чаго не чула. І наган тады паклаў перад ёй на стале. Мог бы адвесці пад елку, кокнуць, а потым заявіць: "Так трэба было".

Успомніла, як настаўнік, паказаўшы чэрап на сходзе, спытаў у людзей: "Што гэта творыцца?" Ён паказаў чэрап трынаццаці — пятнаццацігадовага хлопчыка. А такіх чарапоў колькі валялася тады ў наваколлі, і чэрап настаўніка цяпер недзе валяецца. Мо хіба задумалі ўсіх высяленцаў, а заадно і іхніх дзяцей, павыніштчаць? Каб сведак не засталося. Каб нікога-нікога не пакінуць з высяленцаў. А што сляды — няважна. Пустыя чарапы нічога не скажуць.

Не заўважыла Марыя, як даехалі да тае Согры. Адзінае не выходзіла ў яе з галавы: колькі ёй засталося і быць і жыць?

Праз трое сутак вярнулася дадому сама не свая. Сарвала з сябе хустку і бухнулася ў пасцель. А назаўтра пайшла да каменданта з заявай, каб адпусціў яе на фронт. Каменданта не было, але ў той жа дзень, яшчэ да абеду, прыскакаў на ферму камендант Бяспалаў. Загадаў, каб зараз жа ўсе сабраліся.

— Чаму загадаў? — пачаў раздражнёным, дрыжачым голасам. — Самі знаеце: вайна. Але не думайце, што фронт там, дзе страляюць. Усе вы таксама на фронце, на працоўным. То без лішніх слоў хачу ў вас запытаць: калі на фронце заводзіцца дэзерцір, то што з ім робяць?.. Расстрэльваюць, правільна. А яшчэ хачу ў вас запытаць: што мы будзем рабіць са сваім дэзерцірам? — Камендант дастаў з кішэні паперку, разгарнуў яе — Марыя ўбачыла сваю заяву. — То яшчэ раз пытаю ў вас, што мы будзем рабіць са сваім дэзерцірам? — І падняў тую паперку. — Заява ад Шацілы. І гэта пасля таго... падумаць толькі! На нарадзе ў Согры пастаўлена задача: даць фронту два планы мяса і малака, дык яна, бач яе, заяву каменданту, каб адпусціў. Задумала немцам памагаць.

— Адкуль вы гэта ўзялі? Чаму я павінна немцам памагаць? — Марыя рашуча і з крыкам кінулася да стала. — Што вы блытаеце? Я ж пайду немцаў, фашыстаў біць!

Камендант закашляўся. Па ўсім відаць было, што наконт "памагаць" перабраў. І загаварыў больш памяркоўна:

— Знаеш, што цяпер баі цяжкія ідуць. І ў нас, на нашым фронце запарка. А ты са свайго фронту ўцякаць... Як ні круці, атрымліваецца, што і праўда — праціўніку нашаму памагаць.

— Адкуль вы такое ўзялі? — выходзіла з сябе Марыя.

— Знаем мы цябе, Шаціла! — узарваўся і камендант. А каб далёка не зайшло, парваў яе заяву.

Марыя стала абыякавая да ўсяго: да новага дня, да лусты свежага хлеба, нават да таго, што маці ўжо далі інваліднасць другой групы, а Антон задумаў некуды ўцячы. Ды тут

які дзень настаў — закончылася вайна!

## ПАСЛЯ ЖАЛЕЗНАЙ ЗІМЫ

Ці не лепш будзе закончыць наш сказ пра дзеву Марыю словамі самой Марыі.

Падыходжу да сваіх Тамашэвіч. Хоць якія яны свае. А ні той барадаўкі лесу. Дзе рэчка была, там канава. Здалёк вёска як вёска, а зайшла ў вёску — усё роўна як у халодную ваду: быццам бы хаты і тыя павярнуліся да мяне глухім бокам. Хто сустракае з поўным вядром, хто — з пустым. І кожны праводзіць мяне доўгім, нават зацятым позіркам. Мужчына, што вёў худога, сухарэбрага каня, спытаў у бабкі: "Чыя гэта краля?" — "А бог яе ведае", — не адразу адказала тая.

Прайшла з канца ў канец вуліцы. А ні хаты нашай, а ні ясеня таго, што пад хатай быў. Прапытала я, хто тут з Шацілаў жыве? Мне паказалі на новы дом. Ажно ў тым доме жыў старшыня калгаса. Аказаўся далёкім родзічам: ягоны бацька даводзіўся траюрадным братам майму татку. Але пра майго татку ён не спытаў. Калі ж я пахвалілася, што мяне нядаўна адпусцілі з выселак, а маме да выезду яшчэ адзін год застаўся, старшыня Шаціла ўхмыльнуўся, гледзячы некуды ўбок, і з халадком заўважыў: "На бацькаўшчыну, значыць, пацягнула". Яго ўхмылка, здалося мне, была здзеклівая і гаварыла куды больш за яго словы. Хоць, можа, толькі здалося. Адразу ён клікнуў хлапчукоў і загадаў, каб тыя *зараз жа наказалі* таму і таму (каго назваў па прозвішчу, каго па мянушцы), і дадаў: "Няхай прыйдуць пабачыцца з рэдкай госцяй".

Пад вечар сабралася як не поўная хата людзей: і тыя, каму наказалі, і тыя, хто яшчэ помніў майго татку і маму. Сталі распытваць, што ды як. Я — расказваць і плакаць. Яны таксама плачуць ды ўсё ўспамінаюць: "Паглядзі твайго таткі работу... Які ён быў майстар. Яго веелка і цяпер яшчэ служыць калгасу... І малатарня ж яго. А ты схадзі ды падзівіся на шафу (называюць прозвішча, у каго тая шафа). Ва ўсёй акрузе не было такога спеца".

Пачула і пра сваю маці: "Ой, яна ж мне плацце пашыла! — ускліхнула і, як не заплакала, маладжавая жанчына. — Прыспічыла майму зладзіць вяселле ў жніво. Татка з угаворамі да жаніха, а ён — сваё! Іначай, заявіў, вазьму дзеўку з Фаніпаля. Я кінулася на шыю да таткі: "Родненькі, ці ж ты хочаш мяне з Іванкам разлучыць?". Скарыўся татка. А тут плацця няма. Не свяціць жа на вяселлі нейкім зрэб'ем. Я — да тваёй мамкі. "Выручайце, цётачка. Я вам жыта дажну, а вы мне плацце вянчальнае пашыеце". Угаварыла. Села яна за маё плацце, а я за серп, ды яшчэ мамку сваю ўпрасіла памагчы на тым жніве. Здавалася б, як і трэба. Нас выручыла цётка, і мы яе выручылі. А ўвосень з ног на галаву ўсё перавярнулі. Тваіму татку прышылі крамолу, што ён на жніве падзёншчыкаў, чужую сілу скарыстаў. За тое плацце вас і раскулачылі. А я ж пасля таго, як вас выселілі, тое плацце і не надзела. Як зірну на яго, душачка мая зойдзецца і слязьмі я зальюся... І цяпер тое плацце вісіць у мяне. А ні выкінуць, а ні спаліць яго... і адзець не магу".

А потым і родзічы, і чужыя пачалі радзіць мне:

— Ды не гаруй ты, Манечка, што дом ваш перавялі. Добра, што ў вайну на дровы не збаёдалі, а пад сельсавет разабралі. Паставім мы табе хату на бацькавым котлішчы. Паставім акенцамі на сонца. Пад акенцамі ясень пасадзім. Талакой паможам. Да пакроваў і на сваёй печы пагрэешся.

— І хату табе, Манечка, паставім, — працягвала байчэйшая на язык, — з калгаса цялушку дадзім, дадзім пару парасят, курэй...

Можа б і ўгаварылі, калі б я не засталася ў старшыні пераначаваць. За вячэрай старшыніха пачала перагаворваць усё тое, што нядаўна гаварылі жанкі.

— І дом да пакроваў пабудуюць... І ўсё дадуць: возьмуць з калгаса і дадуць. Во, языкастыя якія!

Потым і старшыня загаварыў.

— Высылалі, дык казалі, што яны не вернуцца. Нізашто не вернуцца. Тады ўсё іхняе разабралі, расцягнулі. А глядзі — выпусцілі. Ці не ўсіх павыпускалі. Дзе ж ім панастаўляеш хаты? — Потым ужо да мяне: — Ну і што калі табе хату паставяць? А ў цябе ж ні гаршка, ні міскі, ні лыжкі... Як ты будзеш жыць? У цябе ж нічога няма.

І нічога мне ў рот не лезла. Сядзела, як на іголках. Не, не ды і пазірала на парог. Потым паднялася з-за стала, падзякавала ім за ўсё і — за дзверы. Хацела сказаць: не трэба мне ваша хата. Ні хаты, ні цялушкі тае — нічога мне ад вашых Тамашэвіч не трэба. А то давеку будзеце вочы драць, што кулачка ды яшчэ на ваша паквапілася. Але адзінае, што сказала: "Бывайце".

Прайшлі гады. Колькі яшчэ можна б расказаць! Ды ўсё не раскажаш. Адзінае дадам. Жыву ў Мінску, у сваім доме, што па вуліцы Сяменава, 60-а. Маю пастаянны капітал — пенсію, якую заслужыла ўласным мазалём на заводзе. Да таго капіталу — усё, што пачынаецца на літару "к": козы, куры, кошка... А яшчэ — кнігі. Люблю чытаць па вечарах.

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў і Нацыянальны навукова-асьветны цэнтр імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі і навукі мяркуюць у 1997 г. правесьці:

* Міжнародны сымпозіум (пад эгідай ЮНЕСКО) "Непрымусовыя варыянты рэстытуцыі: сумеснае выкарыстаньне спрэчных культурных каштоўнасьцяў (юрыдычныя, навуковыя і маральныя аспекты)" (22- 25 красавіка).

* Навуковыя чытаньні "480 год беларускаму кнігадрукаваньню". (Полацак, пачатак верасьня, сумесна з Полацкім музеем гісторыі кнігадрукаваньня і Полацкім унівэрсытэтам).

* Навуковыя чытаньні, прысьвечаныя Ігнату Дамейку (Карэлічы, чэрвень, сумесна з Карэліцкім райвыканкамам).

Адначасова інфармуем, што намі выдадзены матэрыялы Міжнароднага беларуска-нямецкага "круглага стала" ("Беларусіка-7") і зборнік "Вяртаньне-3", куды часткова ўвайшлі матэрыялы Міжнароднага кангрэсу беларусістаў "Беларусь паміж Усходам і Захадам". На жаль, асноўны зборнік матэрыялаў кангрэсу ("Беларусіка-6"), усё яшчэ чакае выданьня па фінансавых прычынах...

Камітэт МАБ і Дырэкцыя Скарынінскага Цэнтру

## З тугой па "жалезнай" руцэ, або Жывыя "дыназаўры" сталіншчыны

Паехаў неяк у слуцкую глыбінку на прыгарадным аўтобусе — грыбоў у лесе пашукаць. Сышоў у невялікай, двароў на пятнаццаць, вёсцы. Зайшоў у хату да знаёмага па ранейшых грыбных і ягадных вылазках, пенсіянера, удзельніка Айчыннай вайны. Яго не было дома, сустрэў у двары сына, мужчыну гадоў за сорак, нягаленага. Прапцягваю яму свежы нумар "Народнай волі" — пачытай, кажу, ёсць шмат цікавага. Мужчына насцярожыўся: "Если льют грязь на Лукашенко — читать не буду". Супакойваю, адказваю, што крытыка ягоных памылак ёсць, але канструктыўная, узважаная. Узяў газету і пайшоў у хату, а я — у лес.

Надвячоркам вярнуўся і ў чаканні апошняга рэйсу аўтобуса да горада, зайшоў у тую хату. Захацелася пагалядзець трэцюю серыю фільма Радзінскага "Загадкі Сталіна". Тэлевізар быў уключаны, але ніхто яго не глядзеў, усе — гаспадар, яго жонка, сын былі заняты гаспадарчымі клопатамі. Я нагадаў ім пра змест фільма — у адказ маўчанне. Потым гаспадар выйшаў з суседняга пакою, несучы ў руках перад сабою даволі вялікі партрэт Сталіна. На твары — ухмылка радасці. "Вось, адзін я на ўсю вёску збярог", — гаворыць услых. Падумалася: што возьмеш з гэтага чалавека, для каго па-ранейшаму, як і пяцьдзесят гадоў назад, "вялікі кормчы" застаецца святыняй — няхай пацешыцца. Але тут жа сын рэзка заўважыў, паказваючы жоўтым, пракураным пальцам на той партрэт: "Вот ково сегодня нам не хватает! Его железная карающая рука навяла бы парадак в Беларуси!" — сказаў, як адрэзаў.

— Ну адкрылі б зноў ГУЛАГ, сталі б па начах раз'язджаць па гарадах і вёсках "чорныя варанкі", — заўважаю я, гледзячы на скажоны гневам твар сына. Ён даглядчыкам на мясцовай жывёлагадоўчай ферме працуе.

— И правильно! — рубіць ён рукой паветра. — А то один имеет пятнадцать машин и три коттеджа, другой — ничего!

— А ці ведаеш, даражэнькі, што па волі таварыша Сталіна было знішчана, ператворана ў лагерны пыл звыш трыццаці мільёнаў грамадзян былога СССР, у тым ліку каля мільёна беларусаў? — задаю ўсваю чаргу пытанне.

— Так и нужно, зато был парадак везде! — адказвае прыхільнік "жалезнай" рукі і выходзіць з хаты. Бацька тым часам адносіць любімы партрэт на ранейшае месца — у светлы пакой, пад абразы. Мне ж падумалася ў той момант: збываюцца прароцтвы расійскага паэта Максімільяна Валошына: "Вчерашний раб, усталый от свободы, возропщет, требуя цепей". Для раўніцеляў сталіншчыны ідэал ранейшы, нязменны — "ярмо с погремушками да бич".

І што мяне больш за ўсё ўразіла ў разважаннях прыхільніка "жалезнай" рукі — дык гэта забыццё пра лёс сваіх дзядулі і бабулі, якіх у 30-м годзе як кулакоў улады выслалі на Поўнач, дзе яны і загінулі, а ягоная маці цудам засталася ў жывых і была вывезена сваякамі з вашывых, ахопленых тыфам таёжных баракаў. А такіх "забыўчывых" сёння па краіне нямала.

На развітанне я не стаў забіраць той нумар "Народнай волі", хоць жаданне такое і было. Ат няхай, думаю, прачытаюць словы праўды, можа, у настоеных на бальшавізме мазгах засвецяцца хоць нейкія парасткі нацыянальнай годнасці, самапавагі.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
г.Слуцк.

## У Беларусі створаны кааліцыйны ўрад. Пакуль грамадскі

На палітычнай карце Беларусі з'явілася новая структура — грамадскі кааліцыйны ўрад дэмакратычных сіл. З гэтай нагоды 8 студзеня адбылася прэс-канферэнцыя яго кіраўніцтва.

Грамадскі кааліцыйны ўрад створаны па ініцыятыве палітычнай апазіцыі: Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускага народнага фронту, Аграрнай партыі, Партыі камуністаў Беларусі і інш. Яго ўзначаліў Генадзь Карпенка, намеснікамі сталі Станіслаў Багданкевіч і Іван Нікітчанка. Новае фарміраванне складаецца з шасці камітэтаў: па макраэканамічнай палітыцы (старшыня С.Багданкевіч, намеснікі У.Тарасаў і Л.Гразнова), прамыслова-энергетычны (старшыня В.Шлындзікаў, намеснікі С.Гусак і П.Данейка), аграрна-прамысловы (старшыня І.Нікітчанка, намеснікі А.Панкруцкі і Г.Усюкевіч), па знешніх сувязях (старшыня А.Саннікаў, намеснікі А.Лябедзька і У.Голубеў), па працы і сацыяльнай палітыцы (старшыня А.Сасноў, намеснікі В.Белякоў і А.Скрыган), па нацыянальна-эканамічнай бяспецы (старшыня Ю.Захаранка, намеснік Г.Цярэня).

Асноўныя мэты створанага органа — аналіз эканамічнай сітуацыі ў Беларусі, інфармаванне яе грамадзян аб рэальным эканамічным становішчы краіны (у тым ліку эканамічных злачынствах дзеючых улад), распрацоўка эканамічных праграм і заканадаўчых актаў для зацвярджэння іх Вярхоўным Саветам 13-га склікання, які, мяркуюць члены кааліцыйнага ўрада, усё ж так дакажа свае паўнамоцтвы. У красавіку грамадскі кааліцыйны ўрад мяркуе вынесці на суд грамадскасці эканамічную праграму па вывадзе краіны з тупіка. Справа ў тым, што, паводле прагнозаў аналітыкаў, праз тры месяцы ў Беларусі ўзровень цэн на прадукты харчавання ўздымецца ў два разы. Пры такім развіцці падзей, лічыць кіраўніцтва кааліцыйнага ўрада, адстаўка збанкрутаванага цяперашняга Савета Міністраў можа стаць палітычнай рэальнасцю. У гэтых умовах праграма "ценевага" ўрада з'явіцца альтэрнатыўнай курсу ўрада А.Лукашэнкі.

Песімістычны прагноз мяркуемага вясною цэнавага выбуху на прадукты пацвярджаецца цяперашнім развіццём сітуацыі на айчынным рынку харчавання. З часу рэферэндуму, прагучала на прэс-канферэнцыі, цэны ў Беларусі шмат на што ўжо ўзняліся ў сярэднім на 50 працэнтаў. Журналістам была прапанавана табліца дынамікі цэн на некаторыя віды харчовых тавараў (у беларускіх рублях).

## А там вясна...

якой чакае апазыцыя і да якой рыхтуюцца ўлады. Улады сур'ёзна заклапочаны назіраньнем таго, што займела назву «Менская вясна-97» (пляны БНФ аб масавым вывядзеньні людзей на вуліцы). Яны абвінавачваюць апазыцыю ў пошуках падтрымкі на Захадзе, у стварэньні недзе пад Ганцавічамі "лагераў для падрыхтоўкі баевікоў", вылiваюць бруд на дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13 скліканьня, асабліва ў апошні час дастаецца былому Міністру Замежных спраў П. Краўчанку. Вядома Беларусь ня Сэрбія і не Балгарыя, але яна яшчэ больш непрадказальная. Сэрбаў вывела на вуліцу жаданьне адстаяць дэмакратыю, Балгарыю вывеў на вуліцу голад, а на Беларусі хутка можа спалучыцца тое і другое...

# Да чаго і дзеля чаго вяртацца?

"Народная Воля"

Ніл ГІЛЕВІЧ

Слухаю па радыё і чытаю ў газетах, як жыве наша суседка Літва. Цяжка жыве, вядома. Праблем — і эканамічных, і сацыяльных, і іншых — безліч. Але настрой у людзей добры, панылаці няма, бо ёсць упэўненасць, што гэтыя цяжкасці часовыя. бо "мы самі гаспадары ў сваім доме, самі выбралі сабе і адстаялі шлях незалежнага развіцця сваёй уласнай дзяржавы; а асабліва добра на душы ад таго, што па ўсёй краіне ўсе да адной установы працуюць на літоўскай мове і ўсе шыльды і шыльдачкі ў гарадах і вёсках — на літоўскай мове... Гэта галоўнае. Усё астатняе мы патроху-памалу адрэгулюем і наладзім. Галоўнае — быць самім сабою, мець сваё ўласнае аблічча, свой гонар і годнасць. Гэта надае нам сілы, мацуе веру і стварае настрой".

Амаль кожны дзень слухаю радыё другой нашай суседкі — Украіны. У мінулым годзе там адбыліся надзвычай важныя для лёсу народа і дзяржавы падзеі: уведзена свая ўласная грашовая адзінка (грыўна), а ўкраінская мова замацавана ў Канстытуцыі як адзіная дзяржаўная. І хоць большыні насельніцтва жывецца вельмі нялёгка, сацыяльныя праблемы абвастрыліся да крайнасці, аднак усведамленне таго, што краіна робіць крок за крокам наперад па шляху ўмацавання сваёй дзяржаўнай незалежнасці, зноў жа такі падымае ў людзей настрой і ўсяляе веру ў заўтрашні дзень. "Галоўнае, — гучыць у эфір з Кіева, — гэта незвычайны ўздым пачуцця нацыянальнай годнасці, наша вера ў новую, свабодную, незалежную Украіну. А цяжкасці — пераадолеем! На гэта ў нас розуму, сіл і натхнення хопіць!.."

А што ж тым часам адбываецца ў нас, у Беларусі? Што гучыць, і грыміць, і свеціцца ў яе сродках масавай інфармацыі? А ўсё тое, што наадварот, што ідзе насуперак развіццю і ўмацаванню дзяржаўнай незалежнасці краіны, адраджэнню яе ўласных пачаткаў і традыцый. Дзяржаўны статус беларускай мовы ва ўдарным тэмпе ліквідуецца. Запіс у Канстытуцыі — пустая фармальнасць: практычна ён амаль нічога не значыць. Пра ўласную грашовую адзінку ніхто і не заікаецца. Яшчэ чаго не хапала — беларускі талер увесці! Не пра гэта думаеце, нацыяналісты! Паслухайце, што "гаварыць" народ, чаго народ патрабуе! І сапраўды ёсць што паслухаць: ажно з 30-х гадоў такога не чулі!

Калі беларускім народам лічыць прафесіянальных платных "палітагітатараў" і некаторых запраданцаў-журналістаў, то "народ" патрабуе, па-першае, расправы над беларускімі нацыяналістамі, а па-другое, аднаўлення СССР і вяртання ў сацыялістычны рай, у якім "мы жылі як людзі". Гэтага ж патрабуе і дзяржаўная сімволіка Беларусі — найбольш абагуленае ўвасабленне палітычных і сацыяльных ідэалаў грамадства. Пра што яна гаворыць, куды яна кліча? Гаворыць, што канцэптуальна ў нас нічога не змянілася ў поглядах на сацыяльна-эканамічную і палітычную стратэгію краіны, а кліча — назад — туды, дзе мы яшчэ не так даўно былі, — у феадальна-прыгонны і дзяржаўна-рэпрэсіўны "сацыялізм".

Многія нашы грамадзяне, у тым ліку палітыкі, публіцысты, навукоўцы, надта ж шкадуюць, што развалўся СССР, і галоўную прычыну развалу, прычыну адчужэння нацый, народаў і людзей бачаць у "сатанінскай дзейнасці" заходніх і празаходніх ідэолагаў. Гэта ўсё яны, яны! Гэта яны задумалі і ўсякімі спосабамі і сродкамі ажыццяўлялі сваю мэту!" Так, вядома, "сатаністы" працавалі і вельмі шчыравалі, каб здарылася тое, што нарэшце здарылася, — каб СССР распаўся. Але праца іх заключалася ў выкарыстанні аб'ектыўных умоў распаду імперыі, — умоў, якія наспявалі і наспелі ў выніку правядзення Крамлём адпаведнай нацыянальнай палітыкі.

Хацеў бы сказаць — палітыкі трагічна памылковай, але не магу, бо яна была зусім свядомая і мэтанакіраваная, з непахіснымі "навукова-тэарэтычнымі" апорамі. Цяпер гэту палітыку называюць *імперскай, вялікадзяржаўна-шавіністычнай*. Такой яна, па сутнасці, і была. І ў гэтым — першапрычына і прычына прычын распаду магутнага "непарушнага" Саюза. Мудрая руская прыказка кажа: "От добра добра не ищут". Калі б рэспублікам было добра ў Саюзе, калі б у дачыненні да іх праводзілася мудрая, гэта значыць справядлівая, спрыяльная, добразычлівая, нацыянальная палітыка, калі б кожная рэспубліка валодала неабходным суверэнітэтам, правам *самастойна вырашаць пытанні* эканамічнай, сацыяльнай і духоўнай жыццядзейнасці ў інтарэсах свайго народа, ці выспела б у душах нацыянал-патрыётаў крыўда, з якое пайшлі трэшчыны адчужэння і разлому? Але мудрасці якраз і не было. Было вялікае хітраванне. Або — вялікая дурнота. Усё зліём у адзін кацёл, грунтоўна перамяшаем і ўтворанае варыва назавём "новай гістарычнай супольнасцю — савецкім народам". І ніякіх нацыянальных праблем! Проста і лёгка вырашым іх назаўсёды!

Перахітрылі саміх сябе стратэгі гэтага варыўна-катлавога курсу нацыянальнай палітыкі. Наколькі ён быў нямудры, неразумны, ненавуковы, валюнтарысцкі, засведчыў не толькі імгненны распад Саюза ССР, але і распад усяго сацыялістычнага лагеру — з самаліквідацыяй СЭУ і Варшаўскага пакта. Пацвердзілі гэта і ганебная ваенная катастрофа ў Афганістане і не менш ганебная крывавая бойня ў Чэчні... Неверагодная няздольнасць зразумець, што кожны народ хоча сам распараджацца сваім лёсам! Кожны! А тым больш народ з вялікім, шматвяковым гістарычным шляхам, са сваёй дзяржаўнасцю ў мінулым (як, напрыклад, наш, беларускі).

Дык што, шаноўныя грамадзяне, будзем вяртацца ў той "сацыялістычны" Саюз? Туды, дзе народ старажытнай культуры зноў будзе зіпаць як рыба на пяску, і моўчкі сыходзіць з гістарычнай арэны? Туды, дзе зноў не будзе ніводнай беларускай школы ў гарадах і мястэчках Беларусі? Туды, дзе наша нацыянальная культура зноў будзе толькі фігавым лісткам для прыкрыцця сораму? Туды, дзе нам зноў будуць указваць, які і дзе прышыць гузік, не кажучы ўжо аб тым, які і дзе пабудаваць завод?..

Дарэчы, хочацца спытаць у тых, хто нязмоўчна крычыць аб неабходнасці аднавіць СССР: скажыце, а на каго разлічаны гэты крык? Каму ён адрасаваны? Украіне? Арменіі? Грузіі? Узбекістану? Малдове? Краінам Прыбалтыкі? Вы што, панове, ужо ведаеце волю гэтых народаў? Ведаеце, што яны хочуць жыць, як і раней, у адным дзяржаўным табары? Не ведаеце? Дык, можа, спачатку спытаеце іх. Напрыклад, прэзідэнт Украіны Л.Кучма перад самым Новым годам заявіў: "Украина проводит политику, исходя из своих национальных интересов. Мы предлагаем России партнерство, нормальное сотрудничество — равноправное и добрососедское. Многие не согласны с этим, но на роль Беларуси, как вы понимаете, Украина никогда не пойдет" ("Литературная газета" за 25.XII.1996 г.). Калі не ўлічыць думку і пазіцыю іншых краін СНД, то можа атрымацца, што ўвесь новы Саюз будуць складаць толькі Расія і Беларусь. Ці не так?

Зрэшты, многія і не хаваюць таго, што яны патрабуюць іменна гэтага — каб Беларусь была інкарпаравана ў склад Расіі. Як дзвесце гадоў назад. І каб ад ненавіснай ім беларушчыны "здесь, на западе России" і духу не засталося. Вось на беларускім тэлеэкране досыць высокі маскоўскі госць — такі ласкавы, такі дабрадушны, такі ўсмешлівы: "Братья-белорусы, да надо нам быть вместе, надо нам жить одной семьей, у нас же одни корни, одна история, одна культура..." А што ж вы, шаноўны дабрадзею, не дагаварылі шаблонную фразачку да канца? Што ж не сказалі "и один язык"? Што вы спыніліся на паўслове?

Вось іменна: адна, адна, адна! Адна гісторыя — расійская (і таму нацыянальныя героі ў Беларусі — знакамітыя расіяне: 20 (30? 40?) калгасаў імя Суворава і, здаецца, толькі адзін — імя Каліноўскага; 100 (200? 300?) вуліц імя Калініна ці Горкага і ніводнай — імя Ігнатоўскага, Ластоўскага, Смоліча...).

Адна культура — расійская (і таму на кожныя 100 песень у беларускім эфіры — 95 расійскіх, а на кожныя 1000 паасобнікаў выдадзеных кніг — 990 на рускай мове).

Адна мова — руская (і таму ўсе да адной установы і прадпрыемствы ў Беларусі працуюць на рускай мове — тут ужо і аднаго працэнта беларускага не набярэцца).

Гэта — рэальнасць, а не прыгожыя словы пра дружбу і братэрства.

І так, сваёй уласнай гісторыі ў Беларусі і беларускага народа няма. І сваёй культуры таксама. Якая там культура? Сёе-тое фальклорнае, нейкая жменька пісьменнікаў ды мастакоў жменька... І сваёй мовы няма. Дзе яна? Трошкі — у тых жа пісьменнікаў? У некаторых вясковых школках? У пяці-шасці тэатрах? Дзе яшчэ? Вартая жалю "трасянка" на радыё і тэлебачанні?..

Калі пра гэтае адна-адна-адна гаворыць ці піша маскоўскі дзядзька — тут усё зразумела. Цяжэй зразумець таварыша сваёй гадоўлі. У навагоднім нумары газеты "Белорусская нива" чытаем: "Жили мы, люди великой страны, что там ни говори, одной общей судьбой". І далей: "И, конечно же, стояли за этим "то-то" новые школы, библиотеки, Дома культуры, спортивные комплексы..." І так, "одной общей судьбой". І які ж лёс чакаў нас, беларусаў, — як нацыю, як этнас? Гэткі ж, як і рускіх? Гэткая ж гістарычная перспектыва росквіту нацыянальнай культуры, літаратуры, тэатра? Беларускай базавай, сярэдняй і вышэйшай школ?

І мы маглі ў гэтую перспектыву, у гэты "шчаслівы агульны лёс" паверыць, бачачы, што ўжо ад Беларусі беларускай амаль нічога не застаецца?! Што Беларусь беларуская ўжо задыхаецца і канае?! Вы пішаце, шаноўны, пра новыя школы? Так, яны будаваліся. Але колькі з іх, з тых, што ўступалі ў строй у гарадах і мястэчках, было беларускіх? Не ведаеце? Дык я вам скажу: ніводнай.

Пане, калі Вы яшчэ не развучыліся чытаць па-беларуску — прачытайце гэты радок яшчэ раз і па складах: ні-вод-най бе-ла-рус-кай!.. І гэта быў наш лёс?! А ў "новые библиотеки" вы заходзілі? Якое ж месца там на паліцах займае беларуская кніга? На сто тамоў небеларускіх — адна? А часопісы і газеты, выпісаныя за бюджэтныя сродкі рэспублікі? На 40—50 рускамоўных падпісак 4—5 беларускіх? І гэта "наша общая судьба"? А з дзейнасцю "новых Домов культуры" вы знаёміліся? Бачылі іх візуальнае афармленне, глядзелі іх культасветныя і мастацкія праграмы? Многае ў іх сказала вам пра росквіт беларускай культуры, пра беларускі патрыятызм іх супрацоўнікаў? Вам не здавалася, што вы знаходзіцеся ў Доме культуры ў Пензенскай ці Кастрамской губерні?.. Ці вы настолькі былі захоплены ідэяй "общей судьбы", што на такія дробязі проста не звярталі ўвагі? "Ну и что, если все на русском? А какая разница? Ну, будет одним языком и одной национальной культурой меньше! Ну и что? Ну, станет на одну нацию, на один славянский народ меньше! Ну и что? Подумаешь, трагедия! Вон сколько в Сибири разных нивхов и удэге не стало — ну и что?.."

Цяжка, ды і няма сэнсу гаварыць з тымі, хто заўсёды і на самы балючы довад вам цынічна-спакойна адкажа: "Ну и что? Но зато наши трактора известны во многих странах мира!.."

Цяжка гаварыць на розных мовах. З начальнікамі. З асветнікамі. З навукоўцамі. З банкірамі. Са слугамі Бога на зямлі — святарамі. І пакуль будзем гаварыць на розных мовах — будзем жыць не сваёй і не "общей", а чужой "судьбою", чужым жыццём і лёсам. Чужым, панове, чужым! І вы гэта выдатна ведаеце. І гэтага хочаце, гэтага дамагаецеся.

Дык, можа, хопіць хлусіць наіўным і даверлівым людзям? Але без хлусні тварыць чорную справу ліквідацыі беларускай мовы, беларускай нацыянальнай культуры, гістарычнай памяці беларускага народа немагчыма. Без хлусні і без цынізму. Цынізм "ліквідатараў" настолькі беспардонны, што чалавека сумленнага проста абяззбройвае. Задумаемся на хвіліну: сёння з усіх трыбун (і вусна і пісьмова) нас, усходніх славян, заклікаюць: "Яднаймася, браты і сестры! Яднаймася! Толькі разам, толькі ў супольнасці, у дзяржаўным адзінстве і толькі з праваслаўным крыжам на сэрцы мы ацалеем і выстаім перад націскам ворагаў славянства!.."

Чакайце, чакайце, чакайце, панове! Я — таксама славянін і стаю за тое, каб кожны славянскі народ са сваёй самабытнай духоўнай культурай ацалеў і жыў-векаваў у свеце. На гэта, не палічыце нясціпласцю, я і жыццё паклаў. Але хто ацалее і хто выстаіць? Дзе ісціна: у вашых словах ці ў вашых дзеяннях? І дзе логіка?

Вы ж усё робіце для таго, каб адзін са славянскіх народаў, а менавіта беларускі, згінуў, знік, растварыўся ў стыхіі другога! Каб зніклі яго мова, літаратура, культура! Яго нацыянальная школа! Дык пра якую супольнасць, пра якое яднанне вяшчаеце? Пра тое, у выніку якога не стане аднаго з усходнеславянскіх народаў? А яго ж не стане, калі ў краіне будзе праводзіцца той курс на "супольнасць", на палітычнае аб'яднанне, які сённяшнія ўлады пачалі ажыццяўляць.

Пяць гадоў назад была перамагла ідэя нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. І было ўжо нямала зроблена на гэтым адзіна правільным, адзіна плённым шляху. Многія паспелі зразумець: толькі гэта ідэя можа аб'яднаць увесь народ Беларусі, абудзіць у ім і паклікаць да жыцця тую творчую энергію, якая ўрэшце прывядзе краіну да эканамічна-сацыяльнага і духоўнага росквіту. Многія — але далёка не ўсе.

А тым часам "пятая калона" не спала. І трох гадоў не прайшло, як "ворагі беларушчыны" (Я.Купала) апамяніліся, змабілізаваліся і пачалі руйнаваць яшчэ слабыя збудаванні нацыянальнага адраджэння і нацыянальнай незалежнасці. Па прычыне раз'яднання дэмакратычных сіл, не ўзброеных адзінай беларускай ідэяй, удалося правесці два антыбеларускія рэферэндумы, навыбіраць у Вярхоўны Савет рэнегатаў, запраданцаў і проста бяздумных абывацеляў.

Пасля 24-га лістапада Беларусь канчаткова перастала быць прававой дэмакратычнай дзяржавай. Пераварот адбыўся. Пераварот палітычны, антынацыянальны, антыбеларускі! Бо што датычыць усяго астатняга — эканомікі, сацыяльнай сферы — нічога ў выніку жульніцкіх плебісцытаў не змянілася. Як каціласа, так і коціцца. Мэта ад самага пачатку — ад ліпеня 94-га — была акрэслена іншая: палітычная. Не дапусціць станаўлення і ўмацавання суверэннай беларускай дзяржавы! Таму што суверэнная, незалежная Беларусь пачне распараджацца сваім лёсам сама — і хто ведае, да чаго дараспараджаецца! Вопыту ж не мае, бедненькая!..

Новы, 1997 год далакопы беларушчыны сустрэлі ў радасным настроі, паціраючы ад задавальнення далоні. Думаю, аднак, што іх радасць хоць і вялікая, але не трывалая, мітусліва неспакойная. І яны самі гэта адчуваюць. Так, панове, так! Радасць ваша будзе слабець і слабець, меньшаць і меньшаць. Гэтаму будзе садзейнічаць, па-першае, эканамічна-сацыяльная сітуацыя, якая нічога вясёлага не абяцае і абяцаць не можа — па той жа прычыне, што кіраўніцтвам краіны праводзіцца антыдэмакратычны, антыбеларускі курс. Па-другое, і гэта галоўнае: да беларускай нацыянальнай ідэі пачало паварочвацца ўсё больш і больш разумных, разважлівых, заклапочаных лёсам Беларусі грамадскіх сіл, і яна, гэта ідэя, будзе паступова ператварацца ў агульную палітычную платформу. Іншага проста нічога не застаецца.

Нейкай іншай гістарычнай перспектывы ў нас няма. Усё іншае — тупік, самазабойства, гібель. Як патрыёты Бацькаўшчыны, грамадзяне Беларусі будуць вымушаны інтэнсіўна беларусізавацца, і не толькі фармальна, а і па сутнасці — духоўна і душэўна, унутрана. Адзнакай грамадска-палітычнага жыцця Беларусі ў 1997 годзе будзе менавіта гэта.

## У Менску знойдзен скарб

У Менску знойдзен скарб залатых вырабаў на суму некалькіх мільёнаў даляраў.

Пры рамонтных працах у фундамэнце аднаго з менскіх магазінаў у раёне вуль. Прытыцкага выяўлены скарб цана якога вызначаецца ў некалькі мільёнаў даляраў.

Экпэртная камісія ўстанавіла, што залатыя вырабы знойдзены ў Менску былі выкананы ў пачатку 13 веку нашае эры, але ў фундамэнт будынку яны трапілі значна пазьней, прыблізна ў 20-ыя гады нашага стагодзьдзя.

Хто схаваў гэты скарб цяпер даведаецца амаль немагчыма.

Дапускаецца, што ў той смутны час уладальнік гэтага багацтва выехаў у сьвет і ўжо ніколі назад не вярнуўся ды не здолеў перадаць тайну сваім нашчадкам... а можа іх і не было. Рабочы, які знайшоў гэты скарб, атрымаў па праву пэўную частку каштоўнасьці.

## Моц палітыка ня толькі ва ўменьні выступаць на мітынгах

**Георгі Таразевіч вядомы ва ўсім сьвеце, як актыўны палітычны дзеяч апошніх гадоў існаваньня Савецкага Саюзу. Зараз кіраўнікі БССР - такія, як Малафееў і Дзямянцей, зноў занялі дзяржаўныя пасады - ужо ў камандзе Аляксандра Лукашэнкі. У адрозьненьні ад іх, спадар Таразевіч ня толькі не супрацоўнічае зь існуючым рэжымам, а ўваходзіць у кіраўнічы склад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, якая зьяўляецца апазіцыйнай. Падчас нядаўняга прыезду ў Гродна, былы сябра Прэзідыуму Вярхоўнага Савету СССР, адказаў на пытаньні карэспандэнта «Пагоні».**



**-Спадар Георгі, Вы адзін з самых вопытных палітыкаў Беларусі. Але Ваша імя рэдка гучыць па тэлебачаньні, у друку і на мітынгах. Прапускаеце наперад маладзейшых, ці наўмысна застаецеся ў цяні?**

-Я ня думаю, што выступленьні на мітынгах гавораць аб асаблівай якасьці палітыка. Хаця ж бываю на іх і нават вёў адзін мітынг ў Менску.

Ня згодны і з тым, што знаходжуся ў цяні палітычнага жыцьця. Я многа пішу. Даю інтэрв'ю. Ацэньваю палітычную сітуацыю. Займаю, на мой погляд, дастаткова актыўную пазіцыю ў абароне Канстытуцыі 1994 году і ў барацьбе з рэжымам, які створаны на Беларусі пасьля рэфэрэндуму.

**-Вы асабіста знаёмы шмат з кім з уплывовых палітыкаў Расеі. Ці падтрымліваеце зь імі сувязь?**

-Нядаўна быў у Расеі. Сустракаўся зь міністрам замежных справаў Прымаковым, зь міністрам абароны Радзівонавым. Адбылася доўгая размова аналітычнага зьместу з Александрам Якаўлевым. Абмяркоўвалі сітуацыю на Беларусі.

**-У беларускім грамадзтве ўсё больш замацоўваецца думка, што імперскае мысьленьне уласьцівае ўсім расейскім палітыкам, незалежна ад іх ідэялагічнай арыентацыі. Вы згодныя з гэтым?**

Гэта не зусім так. У Расеі ёсьць палітыкі і навукоўцы высокага ўзроўню, якія займаюцца зьнешнепалітычнымі і зьнешнеэканамічнымі адносінамі. Яны цудоўна разумеюць, што можа быць, калі адну краіну прымушаць быць васалам другой. Прагрэсіўныя расейскія дзеячы ведаюць, што імперская палітыка, якая зараз можа быць справакавана, да дабра не прывядзе.

Я лічу, што той ліст, які быў дасланы на адрас Лукашэнкі ад імя Ельцына, мае выключна палітычную афарбоўку. Мэта гэтага пасланьня - падтрымка іміджу асобных палітычных лідараў, а не абарона інтарэсаў расейска-беларускіх адносінаў.

**-А каго канкрэтна з расейскай палітычнай эліты Вы маглі б назваць прагрэсіўным?**

-У першую чаргу Александра Якаўлева. Я б назваў яго расейскім Дэн Сяо Пінам. Спадар Якаўлеў можа уплываць на Расейскае кіраўніцтва. Ён у добрых адносінах з Чубайсам. А Чубайс - гэта адміністрацыя прэзідэнта. Пасьля Яўлінскі, Гайдар, Старавойтава і ўсе, хто да іх блізкі па палітычных поглядах. Мяркую, што увесь альянс расейскіх ліберальных сілаў будзе выступаць супраць таго, каб Беларусь заганялі ў цёмны маскоўскі пакой.

**-Якім, на Вашу думку, будзе для Беларусі 1997 год?**

-Гэта будзе вельмі цяжкі год. Складана будуць ісьці працэсы ўзаемаадносінаў з суседзямі, асабліва з Расеяй. Эканамічныя праблемы прывядуць да вялікіх «разборак» сярод улядных палітычных структураў. Паміж людзьмі, якія займаюць дзяржаўныя пасады, нясуць адказнасьць і на якіх можна ўзваліць віну за няўдалае кіраўніцтва дзяржавай.

Гэтыя «разборкі» ужо практычна пачаліся. Старшыня Нацыянальнага банку Тамара Віньнікава, якая больш году лічылася фаварыткай прэзідэнта, сядзіць у турме. Пакуль мы ня ведаем за што. Усё на ўзроўні чуткаў. Гэта наогул дзікунства, з пункту гледжаньня дэмакратыі. Народ павінен ведаць, за што асобу, якая займала такую высокую пасаду у дзяржаве, пасадзілі за краты.

**Дз. Кісель**

## Які сьцяг Беларусі будзе каля Парлямэнцкай Асамблеі АБСЕ?

У адным з нумароў "Народнай волі" паведамлялася, што надалей за "сталом" Парламенцкай асамблеі АБСЕ Беларусь будуць прадстаўляць Пётр Краўчанка і Уладзімір Нісцюк, што іх часовыя пасведчанні былі заменены на пастаянныя і перад імі была выстаўлена шыльдачка з надпісам "Беларусь". Мы асабіста вітаем такое рашэнне, віншуем П.Краўчанку і У.Нісцюка і хацелі б ведаць: а які беларускі флаг будзе падняты на флагштоку каля штаб-кватэры Асамблеі — гістарычна-нацыянальны бел-чырвона-белы ці афіцыйны, падобны да бээсэсэраўскага?

Далей: калі міжнародныя кампетэнтныя ўстановы не прызналі ЛЕГІТЫМНЫМІ вынікі лістападаўскага рэферэндуму ў Беларусі і адпаведна структуры, створаныя на падставе антыканстытуцыйнага мерапрыемства, то ўзнікае такое пытанне — ці з'яўляецца легітымным сам ПРЭЗІДЭНТ, які падпісаў нелегітымныя дакументы?

Чаму незалежная (неапазіцыйная) аўтарытэтная і паважаная газета "Народная воля", ужываючы тэрміны тыпу "Палата прадстаўнікоў", не ўжывае двукоссяў, тым самым садзейнічаючы легітымізацыі нелегітымных утварэнняў?

Якія наступствы будуць мець для Беларусі і беларусаў "ЗАКОНЫ", выпрацаваныя незаконным органам, — гэтак званай "Палатай прадстаўнікоў"?

Хто адкажа нам на гэтыя і многія іншыя пытанні?

**Фаіна і Эдуард Тобіны,**
г.Мінск.

## РЫХТУЕЦЦА СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ СЬВЕТУ

Для Беларусі 1997 год будзе, магчыма, вырашальным зь гістарычнага гледзішча. Гэты год будзе вельмі багаты на навуковыя, адукацыйныя й грамадскія зьезды, канферэнцыі ды семінары. Менавіта летам гэтага году мае адбыцца Другая Сустрэча Беларускае Моладзі Сьвету.

У 1994 г., дакладней 22–23 красавіка, праходзіла Першая сустрэча маладых беларусаў сьвету. Тады яна сабрала блізу 200 удзельнікаў зь Беларусі, краін СНД, Балтыі й Польшчы. На мінулай Сустрэчы ня было ўдзельнікаў з далёкага замежжа. Адбывалася яна ў Менску. Вельмі актыўна рыхтавалі Першую сустрэчу моладзі менскія арганізацыі, сябры Студэнцкага Аб'яднаньня "Беласточчына" з Польшчы.

У лістападзе 1996 г. у Менск прыязджаў старшыня Згуртавання беларускае моладзі Віленшчыны Валеры Савянкоў зь Летувы. Ён вылучыў ініцыятыву пра тое, каб Другая Сустрэча Беларускае Моладзі Сьвету прайшла ў Вільні. Гэтая прапанова была адхіленая прадстаўнікамі Задзіночаньня беларускіх студэнтаў, бо яны нават цяпер лічаць, што Сустрэча пры самых цяжкіх палітычных умовах мусіць адбыцца на Бацькаўшчыне.

Аргкамітэт Другой Сустрэчы Беларускае Моладзі Сьвету стала працуе з 13 сьнежня 1996 г. у Вільні, Менску, Беластоку і Любліне. Цяпер вядома, што на Сустрэчу ў Вільню будуць запрошаныя 835 дэлегатаў з 25 краінаў сьвету, у тым ліку з Ангельшчыны, Аўстраліі, Францыі, Бэльгіі, Канады й ЗША. Другая Сустрэча Беларускае Моладзі Сьвету будзе праходзіць у Вільні 5 дзён, бо яна запляніваная на 21–25 ліпеня 1997 года. Магчыма, што гэтая дата будзе перанесеная на 18–22 жніўня г. г.

У праграме Другой Сустрэчы Беларускае Моладзі Сьвету — выстава маладых беларускіх мастакоў Беларусі й Прыбалтыкі, культурная вечарына старажытных балядаў "Ад Чачота да Міцкевіча", фальклёрная й бардаўская вечарыны, рок-канцэрт з дыскатэкай, шэсьце па Вільні.

Сустрэча ўключае два пленарных паседжаньні. Пытаньні моладзі й палітыкі будуць абмеркаваны на 20 сэкцыях і "круглым стале" з удзелам вядомых палітыкаў і ўрадавых дзеячаў Беларусі, Летувы, краінаў Эўропы.

У рамках Сустрэчы адбудзецца экскурсійнае падарожжа ў Трокі, знаёмства з тамтэйшым замкам і ягонымі экспазіцыямі.

Шаноўныя суродзічы! Магчыма, што Аргкамітэт Другой Сустрэчы Беларускае Моладзі Сьвету ня ведае Вашых адрэсаў ці адрэсаў Вашых суполак і арганізацыяў. Гэта можа стацца прычынай таго, што Вы ня будзеце запрошаныя на сустрэчу ў Вільню. Таму Аргкамітэт зьвяртаецца да ўсіх арганізацыяў і суполак блізкага й далёкага замежжа: пішыце заяўкі на ўдзел у сустрэчы да 10 сакавіка 1997 г.

Карэспандэнцыю просім накіроўваць у Віленскі Аргкамітэт па наступнаму адрэсу: Vilnius, a/d 142, Centrinis paštas, Lietuvos Respublika, VBJS Pirmininkas — Valerijus Savenkovas.

На ўдзел у Сустрэчы будуць накіраваныя анкеты, а пасьля 20 красавіка 1997 г. — запросіны на ўезд у Летуву.

*Раман Кавальчук, сябра Аргкамітэту, прэсавы сакратар ЗБМВ*

**У ЛІТВЕ** дзейнічаюць амаль трыццаць культурных і грамадзка-асьветных арганізацыяў беларусаў. Нядаўна іх прадстаўнікі правялі першую сустрэчу, дзе была прынята пастанова стварыць аб'яднаньне беларускіх грамадзкіх арганізацыяў. Асноўныя напрамкі дзейнасьці — работа па захаваньні роднай мовы, вывучэньне гісторыі, культуры, звычаяў і традыцыяў беларускага народу.

## «Расея! Рукі прэч ад Беларусі!!!»

Гэта была тэма беларускае антылукашэнкаўскае дэманстрацыі, якая адбылася 27 лютага сёлета ў Нью Ёрку. Дэманстрацыя, арганізаваная БАЗА і прадстаўніцтвам БНФ у Нью Ёрку, праходзіла насупраць будынку Арганізацыі Аб'ёднаных Нацыяў, на рагу 1-ае авэню 42-ой вуліцы, якраз у палуднёвы час ад 12 да 2:30 гадзінаў у будзённы дзень, і была разьлічана зьвярнуць увагу працоўнага апарату ААН на факт пашырэньня новае Расейскае /а ў сапраўднасьці старое/ імпэрыі на захад.

Гэтая думка была выказана ў дзесятках транспарэнтаў, як "Спачатку Чачня, а цяпер Беларусь", "Расея! Рукі прэч ад Беларусі!", "Не! Новай турме народаў" і пад., а таксама ў шматлікіх англамоўных і беларускамоўных улётках ды інтэрв'ю амэрыканскаму і іншамоўнаму друку ды радыё. Было таксама падкрэсьлена, што на Беларусі адбываецца ўмацаваньне дыктатуры Лукашэнкі і, што Расея дае новай дыктатуры стопрацэнтную падтрымку.

На заканчэньне дэманстрацыі, прадстаўнікі амэрыканска-беларускага грамадзтва даручылі лісты-звароты да прэзыдэнта Расейскае фэдэрацыі, Барыса Ельцына ў сакратарыят ААН і ў Расейскае прадстаўніцтва пры ААН у Нью Ёрку. У дэманстрацыі ўзялі ўдзел сотні амэрыканцаў беларускага паходжаньня.

Як паведамляюць нам арганізатары дэманстрацыі, падобныя маніфэстацыі ў Нью Ёрку плянуецца праводзіць рэгулярна. Арганізатары заклікаюць амэрыканска-беларускае грамадзтва арганізоўваць гэткія выступленьні ўсюды, дзе прысутнічаюць афіцыйныя прадстаўнікі лукашэнкаўскае хунты-адміністрацыі. /Спэцыяльна для "Беларускага Дайджэсту"

## УВАГА! Новае выданьне...

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва паведамляе, што вось-вось выходзіць з друку новая кніга гэтага Інстытуту — **АРХІЎНАЯ КНІГА**. У яе ўвайшлі недрукаваныя, найчасьцей расшуканыя ў архівах творы, перапіска і камэнтары Юркі Віцьбіча, Хведара Ільляшэвіча, Уладзімера Дудзіцкага, Уладзімера Сядуры, Уладзімера Клішэвіча і Міколы Сільвановіча. Кніга апрацавана і камэнтавана Лявонам Юрэвічам.

Сяньня калі, як усім вядома, на Бацькаўшчыне ганьбуецца й зьневажаецца ўсё нацыянальнае, а найбольш наша дзяржаўнасьць і аснова яе — мова, беларускаму нацыянальнаму замежжу трэба з асаблівым імпэтам і высілкам даводзіць, што і беларуская мова і ідэі беларускае дзяржаўнасьці ў дыяспары жывуць і разьвіваюцца. Наша дзейнасьць ня спыніцца аж да поўнага адраджэньня Беларускае Дэмакратычнае Дзяржавы.

Падпісная цана на «АРХІЎНУЮ КНІГУ» — 25 ам. даль. Любое ахвяраваньне на дзейнасьць Інстытуту будзе прынята з вялікаю падзякай. Старшыня БІНіМ'у, *др. Вітаўт Кіпель*

**_Дарагія Землякі!_ Падтрымоўвайце выдавецкі фонд нашае газэты!..**



IN MEMORIAM

Сьвятой Памяці

## ПАВАЛ АСІПОВІЧ, FCCA-FCIS.

19. 11. 1923 — 22. 1 1997

Скарбнік Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў у В. Брытаніі. Скарбнік і фінансавы дарадчык для Belarusian Charitable Trust Ltd. Сябра Англа-Беларускага Таварыства і сябра Europien Liaison Group раптоўна памёр у Лондане 22. 1. 97. Нябожчык у смутку пакінуў жонку Крыстыну, дачку, зяця і сына.

Пахавальны абрад адправіў а. А. Надсон у саслужэньні з пратарэем Д. Беляньнім у Беларускай капліцы сьв. Пятра і Паўла пры Marian House, Finchley, London. На паніхідзе акрамя сям'і нябожчыка прысутнічалі: ангельская фінансавая група супрацоўнікаў нябожчыка, амбасадар Беларусі ў Лёндане і многа сяброў беларусаў з усяе Англіі і Францыі.

Сьв. п. Павал Асіповіч нарадзіўся ў маёнтку Новаполь, Віленшчына. У 1944 г. апынуўшыся ў Францыі пераходзіць у французкую партызанку, адкуль трапляе ў корпус гэн. Андэрса ў Італіі. У 1946 г. з корпусам пераносіцца ў Англію. Тут канчае эканамічны факультэт пры Лёнданскім унівэрсытэце і пазьней адкрывае сваю фінансавую фірму, у якой працаваў да канца свайго жыцьця.

У 1947 г. быў адным з першых закладчыкаў ЗБВБ. Бесплатна даглядаў фінансы беларускіх эміграцыйных арганізацыяў.

Хай Усемагутны Бог даруе яму Царства Нябеснае. ***Вечная Памяць!***

С. Буткевіч

## I НЕ ДАЙ БОГ, КАБ МЫ ПЕРАРАДЗІЛІСЯ!

Як будзем жыць далей? Што мусім рабіць, каб наш дабрабыт стаў нарэшце такім, як у краінах Захаду? Якім да таго дабрабыту шляхам мы пойдзем? Будзем ва ўсім пераймаць амерыканскі лад жыцця — аж пакуль не амерыканізуемся канчаткова?

Пытанні, пытанні, пытанні...

Мой адказ на іх многім не спадабаецца. Я думаю, што мы ніколі не будзем жыць так, як жывуць амерыканцы. Ні праз дзесяць, ні праз сто, ні праз тысячу гадоў. Чаму? Таму, што мы іншай крыві, іншай натуры, іншай душы людзі. І мы вечна будзем вернымі сабе, сваёй прыродзе. Мы не станем такімі, як амерыканцы. І не дай Бог, каб сталі! Што мяне так адчужае ад іх? А гэта выдатна растлумачыла беларуская школьніца, старшакласніца, якая ў часе канікул была ў ЗША і падзарабляла тым, што ў адной звычайнай, вядома, нябеднай сям'і бавіла, пакуль бацькі на працы, адзінаццацігадовага хлапчука. Па дамоўленасці, разлік з беларускай "нянькай" быў падзённы. Аднойчы гаспадыня вярнулася з працы на гадзіну раней і сказала "няньцы": сёння ўжо можаш быць вольная. І заплаціла ёй за гэты рабочы дзень менш — вылічыла дакладна да аднаго цэнта недапрацаваную гадзіну. У беларускай школьніцы, як гэта кажуць, сківіца адвісла. Дакладней жа, не так сківіца, як душа. З душою нешта зрабілася. Юная грамадзянка Беларусі з жахам зразумела: я ніколі такога жыцця не прыму. Такога сацыяльнага ладу. Такога дабрабыту. Такой маралі. А дададзім і яшчэ адзін штрышок з расказу дзяўчыны. Кожны дзень на працягу тых гадзін, што яна глядзела-пасвіла хлапчука, яе падапечны шмат разоў лазіў у набітую ўсякай усячынай лядоўню, браў садавіну, салодкасці, напіткі і ні разу — ні разу за некалькі тыдняў! — не пачаставаў нават дробнай дробкай сваю выхавацельку. Не зарабіла, не абумоўлена ў працоўным дагаворы — і хлапчук, відаць, быў бацькамі папярэджаны.

Можа, чытач падумае, што я асуджаю амерыканскі лад жыцця, іх мараль і звычаі? Не, ні трохі. За што мне іх асуджаць? Гэта іхнія парадкі, іхняе жыццё, і яно ім падабаецца. Ну і на здароўе! Але ўслед за той прасвятлёнай беларускай школьніцай скажу: я не хачу дабрабыту, у якім пануе такая мараль...

*3 час. "Беларусь".«Пра клопаты, якія надоўга». Запіскі розных гадоў*

Гэтай "прасьветленай беларускай школьніцы" ніхто ў Амэрыцы не паверыць... Каб у нас нехта шкадаваў некаму ежы?!. Ну гэта проста бздуры... Хіба што гэтая "прасьветленая беларуская школьніца" «працавала» ў такіх самых недарэкаў, як сама...

## Нам пішуць... Нас пытаюць...

Паважаны і дарагі Сп. Прускі!

Шчыра дзякую за перасыланьне Вашай газэты...

Цяжка думаць, што там на Бацькаўшчыне творыцца, але я, як веруючы чалавек, адчуваю, што ўсё нават негатыўнае мае свой зьмест і сэнс. Магчыма гэтыя страшныя падзеі на Беларусі будуць для нашага народу шокам і ён абудзіцца з летаргіі.

Бог не без міласьці, Ён нас не пакіне.

Жадаю Вам усяго найлепшага і прыкладаю ахвяру на газэту.

Астаюся ўдзячнай зямлячкай, Н. Б.

*Дзякуем за ахвяру і жадаем Вам таксама ўсяго найлепшага, асабліва моцнага здароўя.*

Паважаны Рэдактар!

"Беларускі Дайджэст" атрымоўваю, шчыра дзякую. Сумна чытаць непрыемныя весткі пра падзеі на Беларусі. Лукашэнка і ягоная бяздарная каманда сілаю пруцца ў абдымкі Расеі. Яны не прадбачаць, што калі Беларусь станецца часткай Расеі, то ёй не будзе патрэбны беларускі прэзыдэнт і яго каманда. Лукашэнка будзе першым і астатнім прэзыдэнтам Беларусі.

Ня верыцца, што многа чытачоў газэты не стараюцца прысылаць ахвяру на "Беларускі Дайджэст". Кошт публікацыі газэты мусіць быць пакрыты, таму абавязак чытачоў і людзей добрае волі фінансава дапамагчы, каб голас беларусаў у вольным сьвеце лунаў і паведамляў пра палітычную трагэдыю, што сяньня адбываецца на далёкай Бацькаўшчыне. Посьпехаў у цяжкай працы. Залучаю ахвяру... З пашанай, С. Б.

*Дзякуем за ліст і ахвяру. Просьбу выконваем... Жадаем памыснасьці і здароўя.*

Дарагі Мікола!

Хачу падзякаваць Табе, Мікола, за вельмі карысную і ахвярную працу якую праводзіш на грамадзкай ніве. Залучаю ахвяру на "Беларускі Дайджэст". Пашчасьліў Божа!

З пашанаю, Г. С.

*Дзякуем за памяць і ахвяру.*

Дарагі а Вельміпаважаны Сп-ру Прускі!

Моцна дзякую за "Дайджэст" і за перасланыя мне матэрыялы. Далучаю ахвяру на кошты выдавецтва. Пасылаю Вашэці таксама касэту з магнітафонным запісам песьні «Жураўлі лятуць». Музыку напісаў малады кампазытар Яўтуховіч на словы А. Бярозкі (далучаю таксама словы: верш гэты зьмешчаны таксама ў зборнічку "Адзінаццаць вершаў". Маю надзею, што песьня спадабаецца. Яна мела сваю прэм'еру ў беларускім менскім радыё (перад тым, як Лука пераключыў усё на "общепонятный язык".

З пашанаю, М. С.

*Дзякуем за ахвяру і касэту. Музыка запраўды спадабалася. Жадаем здароўя і бадзёрасьці.*

Паважаны Спадар Прускі!

Шчыра дзякую за Вашу газэту. Вельмі прыемна чытаць роднае слова і вельмі добра, што такія людзі як Вы знаходзяць нас, людзей старых. Газэта Ваша, як я думаю, лепшая за ўсе беларускія газэты ў Амэрыцы. Вы адлюстроўваеце ў ёй тое, што якраз робіцца на нашай Бацькаўшчыне. Мне вельмі прыкра пасылаць такую маленькую ахвяру, але ўсё-ж лепей, чым нічога.

Яшчэ раз, шчыра дзякую. Дай Вам Бог добрага здароўя і сто год.

З вялікай пашанай да Вас, А. В.

*І Вам жадаем усяго найлепшага.*

Дзень добры паважаны Сп. Прускі!

Прывітаньне Вам з Іркуцка. Вельмі ўдзячныя Вам за дасылку "Беларускага Дайджэста"... Ваша цікавая газэта цудоўна дапаўняе тую іфармацыю пра падзеі на Беларусі якую мы атрымліваем тут...

Вам, мабыць, цікава даведацца больш падрабязна пра наша таварыства... 23 лістапада мы правялі ІІ-гі зьезд беларусаў Іркуцкай вобласьці, дзе вырашалі арганізацыйныя пытаньні і абмяркоўвалі пляны на 1997 год...

Мяне асабіста, як гісторыка, цікавіць тэма "Этапы перасяленьня беларусаў у Усходнюю Сібір", а таксама захаваны беларускі фальклёр у вёсках. Я ўжо зрабіў па вобласьці невялікае падарожжа (420 км. у адзін бок) і знайшоў некалькі беларускіх вёсак...

Калі Вам ня цяжка, то дасылайце 3 экз. газэты... Сябры часьценька прыходзяць да мяне пачытаць газэты.

Дзякуй Вам, і да сустрэчы, А. Р.

*Дзякуем за ліст. Пастараемся высылаць 3 эк. газэты. Жадаем посьпехаў.*

Дарагі Сп. Прускі!

Вельмі дзякую за газэту. Высылаю ахвяру на выдавецкі фонд. Пры гэтым хачу запытаць ці ня можна было-б у наступных выданьнях, на першай старонцы, зьмяшчаць звароткі нашых славутых паэтаў, і гэтым падымаць дух нам, тут на чужыне, ды маладому пакаленьню на Бацькаўшчыне, якое чакае лепшае долі...

Для прыкладу: "Жыві-ж наш край!" Я. Коласа, або: "Хрыстос Уваскрос!" — Я. Купалы. Жадаю Вам вялікае сілы і добрага здароўя, каб і надалей працавалі на ўцеху нам і нашай дарагой Бацькаўшчыне.

Ул. Р.

*Дзякуем за ахвяру і ліст. Прапанова вельмі добрая, і як бачыце мы яе ўжо выкарысталі. Дзякуем.*

## ЦЯЧЭ ВАДА Ў ЯРОК




*Цячэ вада ў ярок,*
*Цячэ вада ў ярок,*
*Кладачку занясло...*
*Кладачка тоненька,*
*Вада халодненька,*
*А я малодзенька.*

*Вочы мае чарны,*
*Вочы мае чарны,*
*Чаго вы косіце?..*
*Бо яго тут няма,*
*Бо яго тут няма,*
*Каго вы любіце.*

*Іванька не прыйшоў,*
*Іванька не прыйшоў,*
*Я да яго пайду.*

*Вадзіцы з крыніцы,*
*Вадзіцы з крыніцы*
*Я яму аднясу.*

*Вады піць не буду,*
*Вады піць не буду:*
*Вадзіца чараўна.*
*Люблю Марусю я,*
*Люблю Марусю я:*
*Маруся суджана.*
(Паўтараецца першы куплет.)

**Песня запісана на Тураўшчыне ў Жыткавіцкім раёне. Апрацоўка зроблена Васілём Купрыяненкам.**

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ



## НЕ ШУКАЙ

**Музыка Ісака ЛЮБАНА**
**Верш Адама РУСАКА**

*Не шукай ты мяне*
*Каля жытніх палёў,*
*Не шукай, не шукай...*
*Калі к сэрцу майму*
*Ты дарог не знайшоў,*
*Не шукай, не шукай...*

*Не кажы ты мне слоў,*
*Што не грэюць цяплом,*
*Не кажы, не кажы...*
*Калі сэрца тваё*
*Не палае агнём,*
*Не кажы, не кажы...*

*Не спявай пад акном*
*Ты мне песні сваёй,*
*Не спявай, не спявай...*
*Калі ў сэрцы не я*
*Буду песняй тваёй,*
*Не спявай, не спявай...*

*Не шукай ты мяне*
*У цішы вечаровй,*
*Не шукай, не шукай...*
*Калі к сэрцу майму*
*Ты дарог не знайшоў,*
*Не шукай, не шукай...*